ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

25 лютага 1994 г. № 8 (3730) Кошт 50 руб.

# «А ЯК СТАНЕМ ЗАРАДЖАЦЬ...»

## З НАГОДЫ СВЯТА, ЯКОЕ БЫЛО Ў СЕРАДУ

Ёсць, ці памятаеце, у Акуджавы кароценькая песенька пра такую прыкмету: калі воран у вышыні — справа блізка да вайны. Каб не ваявацъ, трэба забіць ворана. Каб забіць ворана — трэба зарадзіць стрэльбу. «А как станем заряжать, — спявае Булат Шалвавіч, — всем захочется стрелять. Ну а как стрельба пойдёт, пуля дырочку найдёт...» Канчаецца ўсё тым, што па-ранейшаму ў небе кружыць воран, а стрэліць у яго няма каму.

Гэтыя рэфлексіі старшага лейтэнанта запасу маглі б не з'явіцца на свет, калі б не тая помпа, з якой на афіцыйным узроўні быў 23 лютага адзначаны «Дзень абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь». І ўвогуле, калі б не тыя зацятыя спрэчкі, якія гэтаму дню папярэднічалі.

А спрачаліся мы наконт таго, калі ж усё-ткі ўшаноўваць «чалавека з ружжом»? Да згоды, вядома, не прыйшлі, затое, як звычайна, разышліся — хто па харугвах, а хто па ротах.

Мне няма чаго дадаць да гэтай спрэчкі. А вось усумніцца ў самім яе прадмеце — хочацца. Інакш кажучы, задаць просценькае пытанне: а ці трэба нам такое свята?

Для большай зручнасці адкінем ідэалагічныя, палітычныя, нацыянальныя і нават ча́савыя фактары. Застанецца нармальнае чалавечае вымярэнне. І вось тады задумаемся: а ці ёсць падставы святкаваць з той нагоды, што пад Цермапіламі, Ватэрлоо, Сталінградам, Грунвальдам ці Оршай чалавек забіваў чалавека? А нічога ж іншага, па вялікім рахунку, там не адбывалася. Вас гэта натхняе?

Вось і сёння ва ўсім свеце войскі ёсць, па сутнасці, не што іншае, як удасканаленае, добра структураванае, апетае і рамантызаванае ўвасабленне, далікатна кажучы, далёка не самых лепшых бакоў чалавечай прыроды.

Кожны з нас, выбіраючы той ці іншы занятак, імкнецца дасягнуць у ім найбольшай самарэалізацыі. Выбіраючы вайсковую кар'еру, наўрад ці чалавек збіраецца дасканаліць толькі ўменне насіць шынялі і цэшкі.

«А як станем зараджаць...»

Словам, ці не зашмат увагі ў нашай маладой і не самай заможнай краіне надаецца пытанням ваеннага будаўніцтва і ваенна-патрыятычнага выхавання? Зараз модна згадваць афарызм пра тое, што краіна, якая не хоча карміць сваё войска, будзе карміць чужое. Мне ж даспадобы іншы: «Калі краіна хоча жыць мірна, яна павінна не скупіцца на пенсіі сваім генералам».

Зрэшты, большасць маіх суайчыннікаў дзень 23 лютага, мяркую, успрыняла правільна — як напамінак пра тое, што неўзабаве 8 сакавіка.

**Андрэй ГАНЧАРОЎ**





*Крок, поступ, хада...*



*В. ГАЯВУЮ віншуе знаны саліст «Харошак» Ф. БАЛАБАЙКА /злева/.*



*Фрагмент канцэртнай праграмы.*

Святкавалі аж два дні. Прымалі віншаванні ад калег, сяброў, прыхільнікаў, «паўпрэдаў» устаноў культуры. Паказвалі сваю новую праграму — «Развітанне з ХХ стагоддзем»... Шчаслівым аказалася для ансамбля імя вёсачкі, што на Магілёўшчыне, — Харошкі. Дваццаць гадоў таму дэбютавалі пад гэтым імем маладыя танцоры, і дэбют іхні стаўся сенсацыяй, як былі ў свой час сенсацыйнымі прэм'еры беларускіх народных песень у выкананні «Лявонаў»-«Песняроў». Эстрадная кідкасць, дасціпнасць харэаграфіі, сучасная афарбоўка інструментальнага акампанементу, узнаўленне на сцэне не толькі атмасферы вясковых народных гулянняў, але і танцавальнай культуры беларускіх мястэчак, гарадоў... Усё гэта — «Харошкі». Да іх гэтага не рабіў ніхто. Цяпер у іх багата творчых пераемнікаў ды пераймальнікаў. І, як заўсёды водзіцца вакол таленавітых з'яў, — нямала зайздроснікаў ды апанентаў. Але ў тыя святочныя вечары ў Вялікай зале філармоніі сабраліся выключна сябры Беларускага дзяржаўнага фальклорна-харэаграфічнага ансамбля «Харошкі» ды яго нязменнага мастацкага кіраўніка, галоўнага генератара ідэй Валянціны Гаявой. Імгненні свята занатаваў наш фотакарэспандэнт В. Стралкоўскі.

# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***Напярэдадні 23 лютага Аргкамітэт партыі Свабоды выступіў з адозвай, у якой, у прыватнасці, адзначаецца: «Шчыра вітаючы рашэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета аб абвяшчэнні 23 лютага Днём абаронцаў Айчыны, Партыя Свабоды таксама віншуе ўвесь беларускі народ з надыходзячым святам. Роўна 50 год таму, 23 лютага 1944 года, быў выдадзены загад на стварэнне БКА /Беларускай краёвай абароны/. Блізка 50 тысяч мужных мужчын прыйшлі на мабілізацыйныя ўчасткі. І гэта ва ўмовах, калі агульная параза ў гэтай вайне Германіі была відавочнай. Але 50 тысяч мужчын выйшлі бараніць сваю зямлю ад чарговых акупантаў, гэтым разам сталінскіх бальшавікоў.***

***Асабліва мы дзякуем за аднаўленне гістарычнае справядлівасці вельміпаважанаму пану Грыбу. Мы ўважаем грамадскую пазіцыю Старшыні Вярхоўнага Савета за подзвіг! У яго папярэднікаў не хапала мужнасці на такі крок».***

***Такім чынам, святкаванне 23 лютага Дня абаронцаў Айчыны і Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь набыло двухсэнсоўнасць. Які б год не браць кропкай адліку для даты 23 лютага — 1918 альбо 1944, у кожным выпадку гаворка ідзе пра грамадзянскую вайну, у якой не бывае пераможцаў.***

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

Адзін дзень, 21 лютага, госцем нашай сталіцы і краіны быў прэм'ер-міністр Латвійскай Рэспублікі Валдыс Біркаўс. Адбыліся перамовы, падпісаны дакументы.

Падчас брыфінгу па выніках візіту прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч здзівіў журналістаў, сказаўшы, што ёсць дамоўленасць аб выкарыстанні Беларуссю латвійскіх портаў на Балтыйскім моры, у тым ліку, нафтавых тэрміналаў, на выпадак, калі Беларусь захоча купіць нафту на Захадзе. На пытанне аб выніках свайго апошняга візіту ў Маскву і перамовах з Чарнамырдзіным спадар Кебіч фактычна нічога не адказаў. Мабыць, стасункі з Расеяй усё ж не такія цудоўныя, як запэўнівае нас саўмінаўская прэса, тэлебачанне, радыё. А гэта вымушае ўрад кідаць позірк на Захад?

## ВІНШАВАННЕ ТЫДНЯ

Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан павіншаваў Мечыслава Грыба з новай пасадай. У віншаванні, у прыватнасці, сказана: «Спадзяюся, што кіруемы Вамі Вярхоўны Савет будзе надалей прытрымліваецца палітыкі эканамічных і дэмакратычных рэформ, якую так адстойваў ваш папярэднік спадар Шушкевіч. Мой урад гатовы дапамагчы вам з правядзеннем рэформ».

## РЭПРЭСІІ ТЫДНЯ

Хоць шмат хто, а найперш урад, сцвярджае, што ніякага палітычнага страйку не было і гаварыць няма аб чым, тым не менш ускосным прызнаннем маштабнасці падзеі, што адбылася 15 лютага, сталі рэпрэсіі супраць яе ўдзельнікаў. Да судовай адказнасці прыцягнуты лідэры свабодных прафсаюзаў, Рады страйкавых камітэтаў, актывісты рабочага руху. Распачаты ганенні на актывістаў БНФ, рабіліся спробы запалохаць народных дэпутатаў Беларусі, якія сваім аўтарытэтам падтрымалі ўдзельнікаў палітычнага страйку.

## МАЎЧАННЕ ТЫДНЯ

19 і 20 лютага ў эфір не выйшла радыёстанцыя «Беларуская маладзёжная». Гэта здарылася пасля таго, як раніцай 19 лютага ў прамым эфіры госць праграмы народны дэпутат Беларусі Уладзімір Новік сказаў, што «Масква пагаджаецца на аб'яднанне грашовых сістэм толькі пры ўмове палітычнага ўваходжання Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі».

## ПРЫЗНАЧЭННЕ ТЫДНЯ

На пасаду старшыні Камісіі па абароне і нацыянальнай бяспецы, якую ўзначальваў М. Грыб, абраны А. Новікаў. Таксама генерал. Чалавек, які засведчыў сваё негатыўнае стаўленне да самой ідэі незалежнасці Беларусі. Прынамсі, менавіта так характарызавалі новага старшыню камісіі дэпутаты Н. Гілевіч і З. Пазняк.

## НАРАДА ТЫДНЯ

Аб'яднаная дэмакратычная партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Беларуская сялянская партыя, Беларуская хрысціянска-дэмакратычная злучнасць, Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, Аргкамітэт Патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоцаў», Таварыства беларускай мовы сабраліся 21 лютага на нараду /Кансультатыўная нарада дэмакратычна-патрыятычных сіл/. Абмеркавана сітуацыя, што склалася на Беларусі ў выніку чарговага наступу камуністычна-імперскіх сіл на незалежнасць краіны. У рабоце нарады браў удзел Станіслаў Шушкевіч, прадстаўнікі Рады страйкамаў, свабодных прафсаюзаў, ФПБ. Удзельнікі сустрэчы дамовіліся зрабіць усё магчымае, каб не даць наменклатуры працягнуць у Канстытуцыю артыкул аб прэзідэнцтве; калі усё ж будуць навязаны выбары прэзідэнта — выступіць «шчыльнымі радамі», вылучыць адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад усіх дэмакратычна-патрыятычных сіл, каб не здарылася таго, што ў Расіі /дэмакраты спрачаліся, а перамог Жырыноўскі/.

Таксама была прынята заява аб парушэнні правоў чалавека на Беларусі ў сувязі з рэпрэсіямі супраць удзельнікаў палітычнага страйку і забаронай Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

## АБ'ЯВА ТЫДНЯ

«Прадаёцца распублика Беларусия у харошым састаянии. Цана па дагаваронасти. Абрашчаца у любое урэмя па адрасу: Минск плошчадь Ленина, большой дом направа спрасить Сл» */Надрукавана ў газеце «Свабода»/*

## РАПАРТ ТЫДНЯ

«Поручение конгресса Народного движения Белоруссии об освобождении от должности одного из участников «беловежского сговора» выполнено!» — заявіў, выступаючы ў Віцебску, «незалежны» дэпутат Вярхоўнага Савета А. Лукашэнка.

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Ідзе мэтанакіраванае «прамыванне мазгоў», нібы нас выратуе толькі Расія. Давайце прыгадаем, што гаварыў наш прэм'ер аб калектыўнай бяспецы. Яго галоўны эканамічны аргумент — вось. Расія дасць нам ваенныя заказы. У той час у самой Расіі толькі 20 працэнтаў ваенных магутнасцей было занята. Каму ў такім становішчы яна аддасць ваенныя заказы? Зразумела, сабе, бо лепей плаціць сваім прадпрыемствам, чым беларускім. Сёння ідзе ўжо гаворка аб аб'яднанні грашовых сістэм. Наступным крокам, успомніце мае словы, будзе прапанова аб уваходжанні ў склад Расіі. Правядзецца адпаведная агітацыйная кампанія, і пры «падтрымцы» рабочых, «чырвоных генералаў» прамысловасці Беларусь стане часткай Расіі. Але ж і пасля гэтага нічога ў эканоміцы не зменіцца. Трэба ўсім у рэшце рэшт зразумець, што нельга пасля аднаго ходу выйграць шахматную партыю, што ёсць цяжкая праца». */А. Сасной. «Надзея на рублёвую прастору — гэта ілюзія», «Звязда», 23 лютага/.*

# СТРАЙК І ПАРЛАМЕНЦКІ ПАРАД ГЕНЕРАЛАЎ

А дзесятай гадзіне раніцы 22 лютага, калі я падыходзіў да Дома ўрада, на плошчы Незалежнасці пад бел-чырвона-белым сцягам стаяла дзесятка паўтара людзей. Адразу зашчыміла сэрца — і гэта з тых многіх тысяч забастоўшчыкаў, што па закліках страйкамаў і БНФ павінны былі прыйсці на плошчу ў дзень аднаўлення працы сесіі Вярхоўнага Савета пасля двухтыднёвых канікул? Не прайшло міма ўвагі і тое, што і на плошчы, і каля Дома ўрада амаль не было міліцыі. Сказаў пра гэта нейкаму прахожаму, які спыніўся побач. «Дык жа збор прызначаны на адзінаццаць гадзін, — адказаў ён, — так што ўсё яшчэ наперадзе».

У час перапынку — а палове дванаццатай — я выйшаў на плошчу. Сцягоў і людзей значна пабольшала. Стаяла ўжо чалавек пяцьсот, а мо і больш. Народ — самы розны: ад прыхільнікаў БНФ /іх было больш за іншых/ да «балельшчыкаў» вядомага графа Прушынскага, пра што сведчыў адзін з плакатаў.

Значыць, так. Аб'яўлены бестэрміновы палітычны страйк фактычна захліснуўся на самым старце, не падтрыманы асноўнай масай працоўнага люду. Гэта было відавочна ўжо 15 лютага, калі замест шматтысячнай маніфестацыі рабочых у сталіцы адбыўся звычайны мітынг, якіх было ў нас многа і якія даўно згубілі сваю навізну і асаблівасць.

Чаму ж асноўная маса працоўных не адгукнулася на заклікі страйкамаў і дэмакратычных рухаў і партый выйсці на вуліцы і патрабаваць неадкладнай адстаўкі ўрада Кебіча, не без «дапамогі» якога краіна апынулася на краі бездані? Калегі-журналісты дэмакратычнай арыентацыі паспяшаліся вытлумачыць гэта тым, што, па-першае, людзей запалохалі звальненнем, калі яны прымуць удзел у забастоўцы, а, па-другое, нейкім асаблівым менталітэтам нашага народа. Але «менталітэт» — не надвор'е, якое сёння адно, а заўтра другое. Пры тым жа «менталітэце» народа тры гады назад па рэспубліцы пракацілася магутнейшая забастовачная хваля, якая літаральна скаланула існуючы лад /тады яшчэ капэсэсны/. Што ж спыніла цяпер? Чаму не пайшлі людзі за дэмакратамі?

Справа ў тым, што сёння дэмакратычныя партыі і рухі не карыстаюцца шырокай масавай падтрымкай і з гэтага дэмакратам трэба рабіць сур'ёзныя высновы. Не складае ў гэтым плане выключэння і БНФ, ролю якога ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці, беларускай самасвядомасці, у барацьбе за адраджэнне нацыянальнай культуры і мовы цяжка пераацаніць. І, разам з тым, нельга не бачыць, што сацыяльная глеба, якая падпітвала рух, пачала звужацца. Фронтаўцам сёння бракуе свежых ідэй, умення адэкватна рэагаваць на шматлікія змены ў грамадстве, на пераменлівасць грамадскіх сімпатый і антыпатый, бракуе разумення псіхалогіі так званага простага чалавека. Засмучае зашоранасць лідэраў БНФ і, у першую чаргу, самога З. Пазняка, што не магло не адлудзіць многіх яго патэнцыяльных саюзнікаў.

Але вернемся ў Авальную залу Вярхоўнага Савета. Можа, я памыляюся, але мне падалося, што ў гэты дзень асабліва добры настрой панаваў у сектарах, дзе сядзела пракамуністычная парламенцкая большасць. На тварах дэпутатаў луналі ўсмешкі, чуліся жарты. Падстаў для суму ў іх, бадай, і не было. Многія з іх, я чуў, са страхам чакалі аб'яўленага страйка. Цяпер і страх гэты прайшоў. А тут вось яшчэ і спікер са свайго асяроддзя. Быў ён, дарэчы, гранічна сабраны, паводзіў сябе ўпэўнена, цвёрда і жорстка, выкарыстоўваючы любы зручны /і не зручны/ момант, каб закрыць раты прадстаўнікам апазіцыі БНФ, што выклікала ў іх адпаведную рэакцыю, і раз-пораз у зале ўспыхвалі такія скандалы, што, калі б у нас, як у некаторых краінах, існавала парламенцкая паліцыя, не адзін народны абраннік апынуўся б з яе дапамогай за сценамі залы пасяджэнняў.

І яшчэ я, здаецца, пачынаю разумець, чаму ў англійскім парламенце, старэйшым у свеце, да самага апошняга часу не дазвалялася весці тэлетрансляцыю. І ў новым федэральным сходзе Расіі — таксама. Пасля гэтага там адразу стала цішэй. Каб мая воля, я б зрабіў такое і ў нас. Бо няма сіл назіраць, як некаторыя дэпутаты «працуюць» менавіта на тэлекамеру, пазіруючы, прымаючы тэатральныя позы.

Што было ў гэты дзень на сесіі? У гэты дзень у асноўным вырашаліся кадравыя пытанні. Пасля вядомых падзей, якія скончыліся адстаўкай двух сілавых міністраў, на вакантныя пасады старшыні КДБ быў абраны Г. Лавіцкі, а міністра ўнутраных спраў — У. Данько, якія абодва раней працавалі першымі намеснікамі сваіх шэфаў. Закончыўся гэты, па трапным выразе З. Пазняка, парад генералаў узвышэннем яшчэ аднаго дэпутата-генерала — А. Новікава, які быў абраны старшынёй камісіі па пытаннях нацбяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю.

Быў таксама абраны намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета І. Бамбіза.

**М. ЗАМСКІ**






*Мінск. Плошча Незалежнасці. 22 лютага.*
*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

Пошта

## БЕЛЫЯ ВАРОНЫ

**Урад наш хоча быць да скону,**
**Каб маладым не даць разгону:**
**Крый Божа —**
**выберуць Зянона!**

**Баяцца дужа партакраты,**
**Што ён пасадзіць іх за краты.**

**Хоць «прыхвацілі» дзе што можна.**
**Ды больш не стануць**
**жыць заможна.**

**— А што народ?**
**Ён за Зянона?**
**Яму лепш бутэль самагона**
**Ды танны хлеб, кубёлак сала...**
**Народу трэба гэтак мала.**

**І «гонар»,**
**«Бацькаўшчына»,**
**«мова» —**
**Амаль для ўсіх пустыя словы.**

**Заўсёды ў позе абароны**
**Нямыя белыя вароны...**

**Марыя ЗІНКЕВІЧ**

*г. п. Плешчаніцы*

# БЗВ ЛІКВІДАВАНА? ЖЫВЕ БЗВ!

У мінулую пятніцу Беларускае згуртаванне вайскоўцаў ладзіла прэс-канферэнцыю. Нагодаю для сустрэчы з журналістамі было рашэнне Вярхоўнага Суда аб ліквідацыі БЗВ.

Улады абвінавацілі БЗВ у неадпаведнасці дзейнасці Згуртавання ягонаму статуту, а канкрэтна — у палітычнай дзейнасці. Менавіта так суд трактаваў удзел БЗВ у ахове грамадскага парадку 15 лютага ў часе палітычнага страйку.

Сябры БЗВ згадзіліся з рашэннем суда, не сталі яго аспрэчваць. Але тут жа абвясцілі аб стварэнні новай арганізацыі — Патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў». Тое, што раней было Каардынацыйнай Радай, цяпер называецца Арганізацыйным Камітэтам, адпаведна і замест філій — арганізацыйныя групы. А рэгістрацыя сябрам Патрыятычнага руху БЗВ не надта і патрэбна, яны не збіраюцца ўдзельнічаць у маючых адбыцца выбарах, вылучаць ад сваёй арганізацыі кандыдатаў у новы парламент. Яны ўвогуле не займаюцца палітыкай.

Пра гэта паведаміў на прэс-канферэнцыі старшыня аргкамітэта Патрыятычнага руху БЗВ падпалкоўнік М. Статкевіч. Мэты новаўтворанай арганізацыі ранейшыя: незалежнасць, патрыятызм, дэмакратыя.

Адгалоскі

# ПРА НАДУМАНУЮ РУСАФОБІЮ

### З НАГОДЫ АДНОЙ ПУБЛІКАЦЫІ Ў БЕЛАРУСКАЙ ГАЗЕЦЕ

Калі я прачытаў гэтую рэпліку, дык мне прыгадаліся радкі з верша Я. Купалы «Ворагам Беларушчыны». Абараняючы ад выпадаў шавіністаў мову, «якой азваўся беларус», паэт пісаў на пачатку нашага стагоддзя:

**Чаму вам дзіка яго мова? —**
**Паверце, вашай ён не ўкраў.**
**Сваё ён толькі ўспомніў слова,**
**З якім радзіўся, падрастаў.**

А рэпліка тая выйшла з-пад пяра сучаснага беларускага пісьменніка Георгія Юрчанкі. Накіраваная, на мой погляд, супраць разнявольвання роднай мовы, яна — ці не па іроніі лёсу? — надрукавана беларускай рэспубліканскай газетай у раздзеле «Беларушчына» /гл. «Звязду» за 5 лютага г.г./. Абараняе ж аўтар «мову сапраўды выдатнага народа», якую быццам у нас імкнуцца «прынізіць, зняважыць» і над якой нават не супраць «паглуміцца».

Наконт эпітэта спрачацца недарэчна, бо ён адпавядае рэчаіснасці. /Заўважу толькі ў дужках, што, у адрозненне ад правіцеляў, на свеце, здаецца, няма дрэнных ці пасрэдных народаў/. Таму звернемся да абвінавачванняў. Перш-наперш: хто так растрывожыў паважанага Георгія Фёдаравіча? Хто тыя Ляпкіны-Цяпкіны, якім трэба задаць дыхту? Адказваючы на гэтыя пытанні, да месца ўжыць выраз з Евангелля: імя ім легіён. Бо ў гэтую справу замешаны друк, радыё і тэлебачанне /маецца на ўвазе, зразумела, беларускамоўныя выданні і перадачы/, якія, маўляў, лічаць, што «нас душыць расійская або нават расейская мова». Паняцце «душыць» аўтар публікацыі «Пра неіснуючую мову» асцярожна пакідае ўбаку /можа, таму, што сцвярджаць нешта іншае — значыць, выдаваць сябе з галавой?/. За тое даў волю свайму красамоўю, павучаючы не вельмі кемлівых суродзічаў, што пісаць і казаць «руская мова» добра, «расійская» — кепска, а «расейская» — яшчэ горш.

«Хто калі чуў, каб у Расіі гаварылі на якойсьці расійскай /расейскай/ мове?» — задаецца рытарычнае пытанне. Але ж, прабачце, гутарка ідзе аб яе назве па-беларуску. Чаму ж мы, беларусы, няхай, на думку сяго-таго, і менш выдатная нацыя, чым наш вялікі сусед, павінны абавязкова прыстасоўвацца да яго нават у напісанні і вымаўленні таго ці іншага слова на сваёй матчынай мове? І чым шукаць тут якіясь «падтасаўкі» і «падмены», кідаць абвінавачванні ў «русафобскай логіцы», лепш згадаць некаторыя даўнія факты, якія маюць прамое дачыненне да нашай размовы.

Справа ў тым, што да канца 20-х — пачатку 30-х гадоў па-беларуску пісалі не «руская», а «расійская» або «расейская мова». Шырока ўжывалася гэтаксама напісанне «Расея» і ўсіх адпаведных прыметнікаў. Каб пераканацца ў гэтым, не трэба нават разгортваць лексіграфічныя даведнікі таго часу, бо самі іх назвы гавораць не на карысць Г. Юрчанкі: «Беларуска-расійскі слоўнічак» М. Гарэцкага /1925 г./, «Беларуска-расійскі слоўнік» М. Байкова і С. Некрашэвіча /1925 г./, «Практычны расійска-беларускі слоўнік» М. Гарэцкага і М. Байкова /1926 г./ і інш. Добра, што цяпер з'яўляюцца факсімільныя выданні некаторых з іх.

... Гартаю «Гісторыю беларускае літаратуры», напісаную нашым класікам Максімам Гарэцкім і перавыдадзеную ў 92-м годзе. Між іншым, на працягу першага паслярэвалюцыйнага дзесяцігоддзя яна была адзіным падручнікам для сярэдняй і вышэйшай школы. На старонках даследавання раз-пораз сустракаю такія выразы, як «расійская мова», «расійская літаратура», «расійская літаратурная мова», «расійска-беларуская літаратура» і г.д. Разгортваю купалаўскі зборнік «Спадчына» /1922 г./ і чытаю пачатак верша «Расейскія чыгункі»: «Кожны ведае ў Расеі...». Знаёмлюся са зместам «Кароткай гісторыі Беларусі» В. Ластоўскага, якая выдадзена ў 1910 годзе ў Вільні, а цяпер пабачыла свет у Мінску. Пятая яе частка мае назву «Беларусь пад Расеей»...

Такіх друкаваных сведак безліч. І ўсё ж звярнуся яшчэ да перыёдыкі, балазе сярод шматлікіх старых газет, якія захоўваюцца ў маёй калекцыі, ёсць беларускія дарэвалюцыйныя і савецкія выданні 20-х гадоў, у тым ліку кампартыйныя. Зноў перагледзеў іх і ў кожным нумары сустрэў словы, якія, паводле Г. Юрчанкі, можна было пачуць толькі ў шынках. Відавочна, што звесткі яго з вельмі ненадзейных крыніц. Апроч таго, калі б гэтыя нялюбыя яму словы сапраўды былі абразлівымі для метраполіі і найбуйнейшай нацыі імперыі і Саюза, дык паўстала б пытанне: няўжо жорсткая цэнзура друку — спачатку царская, а потым бальшавіцкая — драмала ў шапку?

Мне могуць запярэчыць, што мова ўвесь час развіваецца: адны словы знікаюць або набываюць іншае адценне, другія — з'яўляюцца. Цалкам згодзен. Але гэты працэс можна лічыць заканамерным толькі тады, калі адбываецца **натуральнае** адміранне слоў і замена іх новымі ці мадыфікаванымі. У нашым жа выпадку, як і ў шэрагу іншых, спрацаваў валявы, дырэктыўны метад з ідэалагічнай падкладкай.

Наступ на родную мову пасля павароту ад палітыкі беларусізацыі 20-х гадоў да фактычнай русіфікацыі, укараненне ў яе /мову/ з асімілятыўнымі мэтамі шматлікіх русізмаў, разгром нацыянальнай інтэлігенцыі зрабілі сваю чорную справу. І калі цяпер беларус «сваё... ўспомніў слова», калі робіцца спроба адрадзіць сапраўды матчыну мову, дык грэх узводзіць на гэтым шляху штучныя перапоны. У нас і так стае нянавісці да ўсяго беларускага ледзь не на кожным кроку. Нават вы, паважаны Георгій Фёдаравіч, згадваючы пра шынкі, намякаеце, як мне здаецца, на «мужыцкае» паходжанне нашай мовы. Калі я памыляюся, дык даруйце, калі ласка! І будзем разам з вялікім Купалам верыць у тое, аб чым ён пісаў у тым жа вершы «Ворагам Беларушчыны»:

**Не пагасіць вам праўды яснай:**
**Жыў беларус і будзе жыць.**

А рускія няхай не турбуюцца: наша слова ніколі не было і не будзе перашкодай ні для добрых адносін з імі, ні для існавання і развіцця іх мовы. Не заміналі б толькі нашай...

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ**

Пятрусь МАКАЛЬ

# СТАРЭЧЫ СТРАХ — АДУЖАЦЬ!



●

**Хоць горка, ды каб выжыць,**
**Не нам з пакорай гнуцца.**
**Жыццё, як штангу выжаць,**
**Але не пахіснуцца.**
**Клялі мы вельмі доўга**
**Той свет, што па-за намі**
**Глядзеў вачыма дога,**
**Палохаў, як цунамі.**
**Ды як жа гэтак стала,**
**Што мы, сыны бяссоння,**
**Цяпер пытаем стала,**
**Як жыць, як быць нам сёння?**
**І з незагойным болем**
**/Наш цэлы век — прапажа!/**
**Мы енчым,**
**Кленчым,**
**Молім:**
**Як выжыць, хто падкажа?**
**Адкажа продкаў вопыт —**
**Саборнае маленне...**
**Ах, зноў на карны допыт**
**Паклікаў час сумленне!**
**А, можа, без прынукі**
**І голасам цвярозым**
**Адкажуць нашы ўнукі,**
**Адкажа ўласны розум?**
**Наш дух спрадвек засвоіў**
**Жыцця і смерці сальда.**
**Адкажуць здані вояў**
**З-пад Оршы і Грунвальда...**
**Ах, выжыць, выжыць, выжыць!**
**Ці град, ці лівень згубны,**
**Надзел надзеі выжаць, —**
**Гукай, світанак трубны!**

## ПРЫЗНАННІ ЗАГОНШЧЫКА

**Слова шапчу хвалебнае,**
**Хаваючы хваляванне,**
**Табе, мая доля хлебная, —**
**Загоннае паляванне.**
**Я з тых, хто з рукамі дрыготкімі,**
**Не ведаючы спачыну,**
**Глушачы неруш трашчоткамі,**
**Пад дулы зганялі дзічыну.**
**Аддаючыся рэхам,**
**Што нікла паміж хмызнякамі,**
**Мы бор скаланалі рэхам**
**У плойме адной з ганчакамі.**
**Ахвяр пад рулады трубныя —**
**Ад беляка да бізона —**
**Прымала ў абдымкі згубныя**
**Ліквідацыйная зона.**
**Спяшаліся хціва мардэрцы**
**Азарт наталіць ваяўнічы,**
**Цэлячы проста ў сэрцы**
**Да дрэваў прывязанай дзічы...**
**Вяршылі мы подзвіг свой цяжкі,**
**Гародзячы частаколы,**
**Каб не давалі прамашкі**
**Стралкі варашылаўскай школы!**
**З пыхаю царскай велічы**
**Тыя, што забівалі,**
**Трафеі крывавыя дзелячы,**
**Загоншчыкаў, нас забывалі...**
**Не ўсе яшчэ былі расказаны**
**Пра тое, каму абавязаны**
**Правадыры і прэм'еры —**
**Вярхоўныя браканьеры.**
**Ах, сам я душу сваю трушчу,**
**Сціраючы пот з аблічча...**
**Чуеце, зноў мяне ў пушчу**
**Ражок паляўнічага кліча!**
**Няўжо за сцяжкамі чырвонымі,**
**Дзе судная доля сустрэла,**
**Павінны застацца да скону мы,**
**Заложнікі зоны адстрэла?**

## СПРЭЧКА

**Пад кронай у часе залевы,**
**Як мудрацы зямлі,**
**Правы, цэнтрыст і левы**
**Гарачую спрэчку вялі.**
**Хоць кідаў парыў рашучы**
**Вышыні свае бараніць,**
**Дрот іх яднаў калючы,**
**Як сувязная ніць...**
**Лагерны дрот — і справа,**
**І злева ва ўсёй красе.**
**А ў цэнтры — такая справа! —**
**І трое, і вязні ўсе.**
**Левы сказаў бяспечна:**
**— Свабода — стыхія вады,**
**Якая віруе вечна,**
**Якая бунтуе заўжды.**
**Правы пярэчыў: — Нам бы**
**Пара зразумець, сябры,**
**Свабода — будыніна дамбы,**
**Якая ўпрагае віры.**
**Мовіў цэнтрыст дрыготка,**
**Кілзаючы пал у крыві:**
**— Свабода — ратоўная лодка,**
**Даві на вясло і плыві!**
**Цяжка адолець галовам**
**Уласную глухату, —**
**Кожны і жэстам, і словам**
**Даводзіў сваю праўату.**
**Моршчыліся па звычцы**
**Аналітычныя лбы, —**
**Здавалася, што ў сутычцы**
**Схопяцца за чубы...**
**Дождж адшумеў таропка,**
**Параю дыхала шыр.**
**А ў спрэчцы паставіў кропку**
**Вокрыкам канваір.**
**І, робячы выгляд бравы,**
**Ператварыўшыся спрэс,**
**Левы, цэнтрыст і правы**
**Карчуюць задумлівы лес...**

●

**Хлусілі, што рабы — не мы.**
**Ах, як бязмоўнасць скорыш?**
**Мой крэўны род — народ нямы,**
**Калі ж ты загаворыш?**
**Гэй, прыхадні чужых зямель**
**З набыткам медных каркаў,**
**Ці чулі вы, каб журавель**
**Па-варанячы каркаў?**
**Старэчы страх не можам зноў**
**Мы з-за таго адужаць,**
**Што рой залётных груганоў**
**Над галавою кружыць.**
**Ці ж не з-за іх, што глушаць слых,**
**З-за выгукаў дзічыны,**
**Здаецца, што ў гаі заціх**
**Салоўкі спеў айчынны?**
**Усім істотам дорыць лёс**
**Жывую гаму зыкаў, —**
**Каб ціўкаў шпак, каб гаўкаў пёс,**
**Каб верабей чырыкаў...**
**Грымяць галоснасці грамы,**
**Што доля не праспана.**
**Але чаму мармычам мы**
**З аглядкаю на пана?**
**Мой люд, заложнік нематы,**
**Спрадвечных скарбаў стораж,**
**Калі ж на мове продкаў ты,**
**Нарэшце, загаворыш?**

●

**Куды ты нясешся, падвода,**
**Крамсаючы коламі брук?**
**Вазніца — якая прыгода! —**
**Ляйчыны ўжо выпусціў з рук.**

**Ад груку павозкі дрыжыце,**
**Вёскі і гарады.**
**Які славянін, скажыце,**
**Не любіць шалёнай язды?**

**Калёсы бяруць накірунак**
**У змрок, у нябачаны змрок...**
**Ах, лейцы б, як паратунак,**
**Схапіць ад бяздоння за крок!**

**Адкуль ты, падвода, адкуль ты**
**Ляціш,**
**Узрываючы цішь,**
**Па волі каманднага пульту?**
**Ад культу**
**Да культу**
**Ляціш.**

# ПРА ЧАС, АРМІЮ І ЛІТАРАТУРУ

Пачэснае месца займае ў беларускай літаратуры тэма Вялікай Айчыннай вайны, гераізму і мужнасці нашых людзей, якія праявіліся ў надзвычай небяспечны для лёсу краіны час. Цяжка нават прыгадаць усё тое, што створана пісьменнікамі пра чалавека на вайне, пра вайну...

Менавіта пра гэтую магістральную тэму ў беларускай літаратуры, ваенна-патрыятычнае выхаванне і жыццё сучаснага воіна ішла размова на «круглым стале»: «Час. Армія. Літаратура», які быў наладжаны Міністэрствам абароны і Саюзам пісьменнікаў Беларусі ў Доме афіцэраў ва Уруччы.

У гутарцы прынялі ўдзел не толькі пісьменнікі, прадстаўнікі Міністэрства абароны, але і афіцэры Гвардзейскай мотастралковай Рагачоўскай чырванасцяжнай ордэнаў Суворава, Кутузава дывізіі імя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У госці да воінаў завітала даволі прадстаўнічая група пісьменнікаў: Іван Шамякін, Мікола Аўрамчык, Пятро Гарэцкі, Генрых Далідовіч, Вячаслаў Дашкевіч, Міхась Зарэмба, Мікола Кусянкоў, Яўген Каршукоў, Сцяпан Лаўшук, Алесь Махнач, Павел Місько, Іван Новікаў, Уладзімір Паўлаў, Нічыпар Пашкевіч, Генадзь Пашкоў, Веніямін Рудаў, Мікола Татур, Алесь Савіцкі, Аляксей Слесарэнка, Анатоль Сульянаў, Віктар Трасцянскі.

З дакладам аб станаўленні арміі рэспублікі выступіў перад пісьменнікамі начальнік Галоўнага штаба Узброеных Сіл Беларусі генерал-лейтэнант М. Чуркін. Ён падкрэсліў ролю літаратуры ў выхаванні воінаў, адзначыў важнасць умацавання шэфскіх сувязей паміж пісьменніцкай арганізацыяй і войскамі. У гаворцы па закранутых праблемах прынялі ўдзел І. Шамякін, У. Паўлаў, М. Кусянкоў, А. Савіцкі, С. Лаўшук, А. Махнач, Н. Пашкевіч і іншыя.

Прагучала нямала слушных і надзённых прапаноў аб шляхах умацавання войска рэспублікі, яго беларусізацыі і захаванні лепшых армейскіх традыцый, паглыбленні патрыятычнага выхавання сучаснага салдата. Гэтаму добра паслужылі б стварэнне нацыянальнага вайсковага выдавецтва, выданне «Бібліятэчкі салдата» і агульнаармейскага часопіса, наладжванне пастаяннага перавыдання лепшых твораў аб Вялікай Айчыннай вайне.

Пісьменнікі мелі прыемную і карысную магчымасць наведаць вайсковыя падраздзяленні, пазнаёміцца з іх жыццём, выступіць перад воінамі.

**Я. ІВАНОЎ**



*На здымку: Алесь Махнач і Мікола Кусянкоў у час сустрэчы з воінамі.*

*Фота Г. ЗАХАРЫКА*

# СВЕТ ЯГО ПАЭЗІІ

**Задушэўнай мелодыяй песні пачалася вечарына ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы, прысвечаная 80-годдзю народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова. Тут, у гасцінным доме Купалы, сабраліся людзі, якія душой і сэрцам адчуваюць святло беларускай паэзіі, каму блізка і дорага родная Бацькаўшчына, яе культура, яе традыцыі.**

**Шаснаццаць гадоў няма Аркадзя Аляксандравіча. Але яго паэзія заўсёды з намі. Яна спадарожнічае нам з дзяцінства, са школьных гадоў, хвалюе багаццем мастацкіх вобразаў, саграрае сваёй чалавечнасцю.**

**Цёпла і шчыра на вечарыне гаварыла пра бацьку Валянціна Аркадзеўна Куляшова. Яна згадала пра сям'ю, пра першыя, яшчэ дзіцячыя спробы пяра, пра сваё захапленне паэзіяй бацькі. Ён быў для яе сапраўдным аўтарытэтам. Вынікам творчага роздуму пра Куляшова як асобу, як паэта з'явілася кніга «Лясному рэху праўду раскажу...»**

**Многа цёплых слоў было сказана ў гэты вечар пра Куляшова паэтамі Міколам Аўрамчыкам, Пятром Прыходзькам, Міколам Мятліцкім. Сяргей Грахоўскі, у прыватнасці, расказаў пра знаёмства Аркадзя Куляшова з паэтамі-землякамі Юлі Таўбіным і Змітраком Астапенкам, якія былі рэпрэсіраваны. Любоў і вернасць да сваіх сяброў Аркадзь Куляшоў пранёс праз усё жыццё. Прыгадаў Сяргей Іванавіч і паэму Аркадзя Куляшова «Хамуціус», якую яму пашчасціла чытаць упершыню ў рукапісным варыянце. Аляксей Слесарэнка прачытаў урывак з паэмы «Сцяг брыгады».**

**На заканчэнне вечарыны гучалі народныя мелодыі ў выкананні фальклорнага гурта «Ліцвіны» пад кіраўніцтвам Уладзіміра Берберава, унука Аркадзя Куляшова.**

**М. ЧАБАТАРЭВІЧ,**
**навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**



*На вечарыне ў музеі Янкі Купалы — М. Мятліцкі, В. Куляшова і М. Аўрамчык.*
*Фота П. ЖОЎЦІКАВА*

●

**Культурная грамадскасць сталіцы адзначыла юбілей Аркадзя Куляшова ўрачыстым вечарам у Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы. На ім прысутнічалі родныя і блізкія выдатнага паэта — жонка Аксана Фёдараўна, сястра Надзея Аляксандраўна, дачка Валянціна Аркадзеўна, пляменнік. Адкрыў і вёў вечарыну народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Выступілі з прачулым словам С. Грахоўскі, І. Чыгрынаў, С. Законнікаў, В. Зуёнак, міністр інфармацыі А. Бутэвіч.**

**На добрым узроўні прайшоў канцэрт з удзелам ансамбляў «Песняры», «Вяселле», «Ліцвіны», артыстаў Марыі Захарэвіч, Галіны Дзягілевай, Валерыя Анісенкі, кампазітара Ігара Лучанка...**

**Для сапраўднай урачыстасці не хапала аднаго — поўнай залы. І справа тут, пэўна, не ў нашай абыякавасці, а ў нашай неарганізаванасці. Уражанне такое, што запрашальныя білеты на юбілейны вечар проста не дайшлі да адрасатаў, размінуліся з аматарамі паэзіі А. Куляшова...**

**Г. К.**

●

**Шырока адзначылі юбілей знакамітага земляка на Магілёўшчыне. Куляшоўскія дні вылiліся ў сапраўднае свята. Да іх было прымеркавана адкрыццё ў Магілёўскім педагагічным інстытуце імя А. Куляшова «Літаратурнага музея Магілёўшчыны», у якім значная частка экспазіцыі прысвечана таму, хто далёка за межамі Магілёўшчыны праславіў Бесяддзе.**

**Студэнты і выкладчыкі сабраліся на вялікі літаратурны вечар, які вёў дэкан філалагічнага факультэта Я. Клімуць. Слова пра жыццёвы і творчы шлях А. Куляшова сказалі намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянкоў, сакратар абласнога аддзялення творчага саюза І. Аношкін, загадчык кафедры беларускай мовы В. Рагаўцоў, Ю. Свірка, П. Шасцерыкоў, А. Канапелька, рэжысёр Бялыніцкага народнага тэатра В. Ермаловіч. У Магілёве прайшлі таксама куляшоўскія навуковыя чытанні.**

●

**У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры на вечары, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння А. Куляшова, з вучнямі мінскай СШ N 40 сустрэліся М. Аўрамчык, У. Марук, дачка паэта В. Куляшова.**

**У выкананні школьнікаў прагучалі вершы паэта, яго неўміручая «Алеся».**

**З. КУЧАР**

Пошта

# ФІЛАСОФІЯ ПАПЕРАДЗЕ ПАЛІТЫКІ?

Перад намі стаіць задача — перамагчы камуністаў на маючых адбыцца выбарах. За яе вырашэнне мы мусім узяцца па-гаспадарску, кемліва ды руплiва, як усё і робіць заўсёды беларус.

Перш за ўсё трэба агледзецца ды зразумець, у чым канкрэтна неабходна пераканаць большасць насельніцтва, якое знаходзіцца ў летаргічным сне апалітычнасці. Новыя палітыкі лічаць, што дзеля перамогі хопіць, каб стары ўрад і парламент давялі краіну да разбурэння й голаду. І, мабыць, тады народ выбера іх... Мяркую, што не ўсё так проста. Сённяшні палітык ужо не мае права казаць: «Вы займаецеся філасофскімі пошукамі новых захадаў кантактавання з электаратам, а мы мусім займацца палітыкай». Ды сённяшнім электаратам без новай філасофіі ўжо авалодаць немагчыма, бо «не хлебам адзіным жывы чалавек».

Дзе ж нам і як шукаць гэтую новую філасофію, якая па моцы шматразова пераўзыходзіла б ідэалогію нашых супраціўнікаў і была б здольная не толькі пераканаць кожнага з нашых апанентаў, але і перацягнуць на наш бок? Мабыць, варта нам звярнуцца да класіка нашай літаратуры Янкі Купалы. Бо ўжо даўно адказаў ён на пытанне: «А чаго ж, чаго захацелася ім?..» І сапраўды, калі мы ўважліва прыгледзімся да філасофіі нашчадкаў Сен-Сімона і Маркса, якая чытаецца ў іх дзеяннях, дык убачым, што на пытанне Купалы яны даюць зусім іншы адказ: «не людзьмі, а шрубкамі». Да чаго вядзе такая філасофія, зараз усе добра ўбачылі. Але вось тут ёсць маленечкая, ды вельмі істотная закавыка. Усе яе ўбачылі, аднак засталася няпэўнасць: ці то філасофія фальшывая, ці то прымяненне яе было няправільнае — дурні рабілі? зладумцы перашкаджалі?..

Дык вось сённяшнія палітыкі проста абавязаны вырашыць гэтую няпэўнасць. Яны павінны альбо абвясціць, што тая філасофія сапраўды была фальшывая, і выкласці замест яе сваю правільную, альбо давесці, што папярэднікі няўмела яе ажыццяўлялі, а яны вось усё зробяць як трэба, каб яна рэалізавалася. Толькі такая пазіцыя палітыка дазволіць пазбегнуць разгубленасці і расслаення грамадства, прывядзе да яго кансалідацыі, што і будзе падставай для перамогі на выбарах.

У сваёй гісторыі чалавецтва ўжо неадночы выбіралася з балота ідэйнага цемрашальства. Астатні раз гэта было ў часы сярэднявечча, калі пасля рэлігійнага вар'яцтва інквізіцыі пачалася эпоха еўрапейскага Адраджэння. Якраз тады з'явіліся Капернік і Галілей. Гэта значыць, патрэбен аказаўся зварот да космасу. Ці не дапаможа нам і сёння пры выйсці з цемрашальства старой філасофіі ізноў зварот да космасу? Шукаць мы ў ім маем адказ на пытанне «Што значыць людзьмі зваццa?» альбо «Што такое чалавек?» Калі ўважліва аглядаеш усю вядомую гісторыю чалавецтва і ў ёй філасофію, то заўважаеш, што апошняе пытанне было заўсёды ці не галоўным. Што б ні рабілі людзі, яны заўсёды хацелі атрымаць дакладны адказ на гэтае пытанне. У той жа час усёй сваёй дзейнасцю яны давалі на гэтае пытанне адказ такі, які ім быў зразумелы ў сваім часе. І ўсёчасна адказ на пытанне «Што такое чалавек?» будзе ўдакладняцца...

Правілы ўзаемных адносін людзей складаліся на працягу ўсёй чалавечай гісторыі. Астатнія 2500 гадоў гэтыя правілы назапашваліся больш-менш сістэматычна. Як усё, што належыць да галоўных каштоўнасцей чалавецтва, яны абаронены звычайным кансерватызмам. Новыя веды, такія, як адкрыццё гравітацыі — усяго 300 гадоў таму, альбо ўсведамленне паняцця інфармацыя — і ўвогуле 30 гадоў таму, — яшчэ не паспелі належным чынам узддзейнічаць на самаасэнсаванне чалавека. Вучоныя адкрываюць усё новыя і новыя веды аб прыродзе, а грамадазнаўцы з вялікім спазненнем выкарыстоўваюць іх. Але так ці інакш працэс гэты йдзе. Не бачу благога, калі мы, беларусы, скажам сваё новае слова ў гэтым працэсе. Можа, за гэта і дасць Бог нам гэтулькі пажаданую Незалежнасць. Калі палітыкі іншых краін возьмуць з нас у гэтым прыклад — калі ласка. І ім і нам ад гэтага будзе толькі лепш.

Такія ўжо мы, беларусы: ніколі, нікому, нічога, ніякага, а калі што якое, дык што ж тут такое?

**Алег ГАЕЎСКІ, інжынер**
*г. Мінск*

# З НАДЗЕЯЙ СПАТКАЦЦА

## ЛІСТ З БЕЛЬГІІ

Паважаныя спадары! Здаецца мне, што тон вашай газеты стаў даволі песімістычны. Ну, але гэта — не ваша віна. Такая сітуацыя ва ўсёй краіне. Шкада, аднак, што кіраўніцтва Беларусі не разумее гэтае сітуацыі і не стараецца вывесці краіну на добры шлях, а ўсё больш і больш разбазарвае яе. Я асабіста меў нагоду заўважыць гэта на прыкладзе арганізацый так званых «Дзяцей Чарнобыля» /хаця гэта і не дзяржаўная інстытуцыя/. Бальшыня з гэтых арганізацый не ёсць шчырымі. Пакінуўшы збоку, што арганізатары стараюцца зарабіць на няшчасці, зазначу: вялікая колькасць дзяцей, якая сюды прыязджае, не патрабуе лячэння. Прыязджаюць сюды проста «па блату» — на адпачынак, на канікулы. Я меў частыя нагоды з імі спатыкацца. Дзеці як дзеці — звычайна адкрытыя і наіўныя, гавораць праўду. Прыкладам, прывёз дзяўчаткам пачастунак, дык адна мне і кажа: тата казаў, каб лепш даляраў, бо ён хоча купіць машыну...

Прыкладаў такіх зашмат. На шчасце, бельгійцы не ўсё заўважаюць і аднасяўца прыхільна да такіх арганізацый.

Ведаю таксама, што часамі высланыя ў Беларусь медыкаменты і да т.п. не даходзяць, а пераймаюцца людзьмі, якія іх распродваюць. Даю вам прыклад. Адзін з маіх землякоў, аптэкар, будучы ў Мінску на З'ездзе беларусаў свету, меў нагоду спаткацца з адным такім «бізнесменам», які яму прапанаваў вялікую колькасць медыкаментаў. На пытанне, адкуль лекі, адказ быў просты: з Захаду...

З вялікаю цікавасцю прачытаў гутарку Г. Каржанеўскай з В. Каваленкам за 19 лістапада 1993 г. Праблема напісання новае гісторыі беларускай літаратуры вельмі актуальная не толькі знутры Беларусі, але /і, магчыма, нават найбольш/ за еймымі межамі. Дадам яшчэ, што напісанне праўдзівае гісторыі Беларусі і пашырэнне за яе межамі — вялікае заданне для нашых гісторыкаў.

Жывучы тут, на чужыне, нам вельмі балюча чытаць сфальшываваную і скаверканую нашу слаўную гісторыю. А ўсё таму, што дадзеныя пра яе чэрпаюцца з фальшывых дакументаў. З дакументаў тэндэнцыйных, сфабрыкаваных чужымі і варожымі нам людзьмі.

Адзін з свежых прыкладаў вазьму з спецыяльнага дадатка да бельгійскае франкамоўнае газеты «Le Soir» /«Вечар»/ за 12 лістапада мінулага года. Дадатак мае загаловак «Мазаіка Цэнтральнае Еўропы» й ілюстраваны каляровымі картамі. Там нашая гісторыя так перакрыўлена, што мы /я і мой прыяцель і зямляк А. Арэшка/ пастанавілі напісаць у газету спраставанне. Мы атрымалі адказ як ад галоўнага рэдактара выдання, так і ад выдавецтва дадатка з паведамленнем, што наш ліст перададзены аўтарам вышэйпамянёнага дадатка. Ад аўтараў /адзін прафесар геаграфіі, адзін навуковы даследчык па геаграфіі і адзін магістр гісторыі/ адказу пакуль не атрымалі.

Таксама я меў нагоду паправіць памылковы пункт гледжання на нашую гісторыю аднаго фламандскамоўнага журналіста. Прачытаўшы яго артыкул, я яму тэлефанічна паведаміў, што ён не мае рацыі. Наступны артыкул ён напісаў ужо на аснове маіх спраставанняў. На жаль, не ўсе журналісты так да справы падыходзяць...

Як бачыце, вельмі патрэбны працы па нашай гісторыі. Каб нарэшце ўсюды зразумелі, што мы не палякі і не расейцы. Што Вялікае княства Літоўскае — не сённяшняя Літва, якая быццам бы дамінавала ў перыяд існавання ВКЛ.

Вельмі ўдзячны «ЛіМу» за мой артыкул — уражанні пасля наведвання Бацькаўшчыны.

З надзеяй спаткацца ў Мінску —

**Янка ЖУЧКА**
*г. Вільвордэ*

Тэатр

# І ВЫБУХІ, І СКОКІ, І — ЭФЕКТ...

На суботу, 5 лютага, прыпала прэм'ера Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі «Банжур, мес'ё Перо!», — камедыя з лялькамі і балетам па матывах вядомых, знаных, папулярных ды любімых дзятвою шмат якіх краін казак. Шчыра кажучы, і за нядаўнім датацыйна-аплатным часам з'яўленне ў тэатры любой казкі не часта рабілася падзеяй, а вось для падзеі на сцэне беларускага лялечнага з'явіўся адметны літаратурны грунт: пераклады Зміцера Коласа, — пераклады, а не агульнавядомыя ў рускім варыянце пераказы са знакамітага француза.

Мастацкім вартасцям перакладаў яшчэ чакаць і спадзявацца на ўвагу з боку тэатра. Гэтым разам нашым дзецям прапануюць не дужа зграбную пераробку пецярбургскай аўтаркі Ноны Слепаковай, зробленай ёю ў свой час для вядомага рэжысёра тамтэйшага ТЮГа /пераклад Артура Вольскага/. Я нездарма агаварылася — у свой час. Бо магчымасцямі, запатрабаваннямі і так бы мовіць, падтэкстамі сямідзесятых патыхае і ад самога тэксту, і асабліва — ад інтэрпрэтавання знакамітых сюжэтаў казак «Прыгажуня ў сонным лесе» і «Кот у ботах». Выдаткі драматургіі перадусім абумовілі млявасць дзеяння, якое, нягледзячы на запамінальна ўжытыя рэжысёрам Аляксеем Ляляўскім стыль і прыёмы італьянскай камедыі дэль артэ, часпочас выдае проста на няскратнае. Акцёры Алег Сцепанюк /Арлекін/, Алена Конска /Каламбіна/, Вячаслаў Шакаліда /П'еро/, Аляксандр Казакоў і Аляксандр Гаршкоў /Дзані/ цудоўна рухаюцца /балетмайстар — Галіна Сінельнікава/, спяваюць /кампазітар — Уладзімір Кандрусевіч/, б'юцца, натурацца, уяўляюць і паказваюць немудрагелістыя звады, абумоўленыя маскамі, але за іхнімі дывертысментамі не чуваць і часам не відаць лялек /мастак — Аліна Фаміна, лялечны майстар — Алег Нікалайчык/. Чырвоны заднік «каўтае» абодвух Дзані, апранутых у ярка-чырвонае /калі прадугледжваўся эфект «чырвонага кабінета», гэткае незаўважнае з'яўленне й знікненне абодвух, дык ён не спрацоўвае/; пуставатая прастора сцэны менш за ўсё спрыяе атмасферы казачнасці; усе прыгоды, прасцей, выхады лялечных персанажаў ажыццяўляюцца на... выездах — фурах, якія цягаюць сюды-туды акцёры /па-рэжысёрску гэтае цяганне ну аніяк не абыграна, хіба аздоблена акцёрскімі дзеяннямі і апраўдана функцыянальнаю неабходнасцю/; няўдалы гарызонт самой лялечнай сцэны таксама замінае хораша разгледзець лялек, тым больш немагчыма сачыць за іх дзеяннямі /ды, перапрашаю, акцёры не-лялечныя адбіраюць усю ўвагу на сябе/; сам па сабе не надта ўцямны тэкст яўна перавышае магчымасці лялечных персанажаў, — на тэатральным слэнгу гэта гучыць вобразна: тэкст не лезе ў персанаж... Не лезе тэкст, як і не надараецца дакляраванага развіцця характараў. Маю глядацкую ўразлівасць скаланула піратэхніка, — ад трох выбухаў у сцэнах пераўвасаблення людаеда зала вокамгненна засяродзілася. Але ж не бабахаць ад пралога да эпілога...

**Ж. Л.**

Меркаванне

# ...І СТАНЕ НАРОД НАРОДАМ

***Днём з агнём у наш час не знойдзеш у газеце, не пачуеш у эфіры якіх-небудзь атэістычных выступленняў. Затое на хрысціянскі прапаведніцкі амбон, асабліва ў дні праваслаўных свят, выстройваецца цэлая чарга. Не апошнія ў гэтай чарзе і пісьменнікі.***

Чалавек я хрышчоны, і да споведзі хадзіў, малітвы і спевы святыя ведаю, і таму мне не надта цікава слухаць па радыё ісціны з катэхізісу — свайго роду лікбез на ўзроўні «Бібліі для дзяцей», якім займаюцца святары. А вось свецкага інтэлігентнага чалавека заўсёды паслухаю. Ніну Загорскую ў тым ліку.

Слухаў яе і падчас праваслаўных Калядаў. І хаця на маё вуха «смірэнны», царкоўны тон аповяда пісьменніцы пра «Госпада нашага Ісуса Хрыста» гучаў не зусім натуральна, аднак гэта, урэшце, справа густу. Больш важна — не **як**, а **аб чым** гаварылася.

Ды і гаварылася добра. Бо што дрэннага знойдзеш у маральных каштоўнасцях, якія прапагандуе хрысціянства? Праўда, Ніна Загорская не абмежавалася «катэхізісам», а, як кожны свядомы патрыёт, выказала сваю заклапочанасць канфесійнай разрозненасцю люду беларускага. На яе думку, еднасці народа паспрыяў бы пераход абедзвюх хрысціянскіх канфесій на адзіны царкоўны каляндар. Пісьменніца прапануе літаральна «злучыць календары, узяўшы за аснову... праваслаўны» /цытую з радыё/. І тут жа апраўдваецца: «Я не заклікаю, крый Божа, да уніі...»

Цалкам згодны, што «злучэнне» календароў рэзка аслабіла б міжканфесійныя супярэчнасці, паспрыяла б кансалідацыі грамадства. Аднак калі пісьменны чалавек прапаноўвае ў якасці адзінага каляндар «праваслаўны», то тут ужо, як кажуць, даруйце. Ці ж не вядома Ніне Загорскай, што «праваслаўны» /юліянскі/ каляндар, прыняты яшчэ да нашай эры, з'яўляецца архаічным, бо недакладна ўзгоднены з рухам Сонца? Праз кожныя 128 гадоў ён будзе і надалей адставаць ад заведзенага Богам гадзінніка на адны суткі. Такім чынам, калі чалавецтву наканавана доўгае жыццё, то руская праваслаўная царква, жывучы па сваім, а не па Божым часе, рызыкуе запрашаць Дзеда Мароза са Снягуркай урэшце тады, калі астатнія хрысціяне будуць збіраць купальскія росныя травы...

Разумеючы гэта, нядаўна на «новы», грыгарыянскі каляндар перайшла Балгарская праваслаўная царква, дзе царкоўныя ўлады прыйшлі ўрэшце да вываду, што жыць у цывілізаваным свеце і карыстацца выкапнёвым «чысленнікам» — значыць, ізаляваць сябе ў шмат чым ад цывілізацыі.

Не ведаю, як хто, а я заўсёды няўтульна адчуваю сябе на Купалле, якое ў нас амаль афіцыйна адзначаецца 7 ліпеня, праз два тыдні пасля таго, як Сонца адыграла на самай «макаўцы» свайго гадавога шляху на небе. Чаму б нам сапраўды ўсім народам не гуляць Каляды ў тыя дні, калі Сонца /як і сын Божы/ нараджаецца і робіць першыя маленькія крокі да вышынь? Чаму б праваслаўнай царкве не адлічваць даты Вялікадня, арыентуючыся на ісцінны дзень Вясновага Уваскрэшання — раўнадзенства? Тады б не даводзілася святкаваць гэта цудоўнае свята раз-пораз аж у маі, калі ўжо прырода не толькі даўно ўваскрэсла, а буяе ў летніх красках...

Адказ на гэтыя «чаму» знайсці няцяжка. Ён — у закаснелым дагматызме праваслаўных іерархаў, дагматызме, а мо і непісьменнасці пэўных колаў нашай інтэлігенцыі і ўлад. Руская праваслаўная царква ўпарта трымаецца сваіх дагматаў. Больш таго, яна менавіта на іх трымаецца, бо, пэўна, верыць у іх больш, чым у самога Бога.

Калі разумець Бога як Творцу Сусвету, то трэба прызнаць, што ён раскруціў наш планетарны механізм, як хацеў. Чалавек жа, імкнучыся пазнаць Бога, павінен шукаць хаця б прыблізныя законы і формулы створанага ім. Як ні дзіўна, у мінулым тысячагоддзі і жрацы і валадары гэта добра разумелі. Без лішніх эмоцый яны дзесяткі разоў рэфармавалі календары, ліквідуючы іх недасканаласць.

У наш час, як ізноў-такі ні дзіўна, да Бога, як да ісціны, бліжэй навукоўцы-астраномы, фізікі. Пазнаючы глыбіні Космасу і мікрасвету, яны ўсё больш набліжаюцца да ісціны, і ўсё больш упэўніваюцца ў немагчымасці пазнаць яе, як і Бога, — абсалютна. Што да такой простай рэчы, як каляндар, то вучонымі створаны «вечны» каляндар, зручны, разумны і просты. Увядзенне яго ў карыстанне абмяркоўвалася ў ААН, горача прапагандаваў навіну Джавахарлал Нэру, аднак справе перашкаджаюць усё тыя ж, хто, відаць, не спасціг паняцця «вечнасць»...

Што тычыцца праваслаўнай царквы, то тут усё зразумела. Гэта царква палічыла немагчымым прыняць новы каляндар толькі таму, што ён быў уведзены ў краінах Еўропы Папам Рымскім Грыгорыем XIII. Кітайцам, якія ўвялі новы каляндар у 1911 годзе, відаць, не было чаго дзяліць з каталікамі, а вось братам-хрысціянам паміж сабой ёсць што, тым больш на Беларусі.

Далей яшчэ прасцей. І камуністычныя, і савецкія ўлады, і савецкі люд на Беларусі наогул бяруць ва ўсім за ўзор Маскву. Таму і праваслаўе ў нас, хоць і негалосна, лічыцца ці не дзяржаўнай рэлігіяй. Перайдзі Масква на месяцавы каляндар — тое ж хуценька адбудзецца і ў нас. Сёлета ўжо, дзякуючы сродкам масавай інфармацыі, шырока адзначаўся «стары Новы год» — «свята», сама назва якога шакіруе вуха еўрапейца. Шырока выйшла на вуліцы Ражство. Аднак, калі ў той жа Еўропе яно ўзгоднена з рухам Сонца і веруючыя і няверуючыя святкуюць Каляды аднолькава радасна і дружна, то ў нас 7 студзеня яно носіць толькі рэлігійны характар і таму раз'ядноўвае людзей.

Але ўявім на хвілінку, што хрысціянства цалкам перайшло на адзіны каляндар /не на стары, вядома, гэта — абсурд — так і да драўляных ідалаў можна вярнуцца/, і, болей таго, у нашай краіне — на беларускую мову... Што тады можа адбыцца? Народ сапраўды стане народам, усе ў святы разам пойдуць у храмы, пэўна, у тыя, што бліжэй, бо якая людзям розніца, у які бок хрысціцца і на якую талерку класці грошы — Бог жа адзін!.. Захвалююцца мо толькі іерархі наверсе. А каб яны не хваляваліся, можна б абраць сваіх, а яны ўжо дамовяцца, як удасканаліць рытуалы ў бок іх збліжэння і канчатковага зліцця... І гэта ўжо будзе адзіная Беларуская хрысціянская царква...

Гэта значыць, унія? Тая, ад якой адхрышчваюцца Ніна Загорская і чамусьці яшчэ шмат хто з творчай інтэлігенцыі? А чаму б і не?! Беларусь у ёй зацікаўлена. Не зацікаўлены толькі тыя, хто не хоча самой Беларусі.

Толькі не падумайце, што я заклікаю аднаўляць старую унію, дзе былі праваслаўныя абрады і рымскае верхавенства. Калі назад вяртання няма, тады чаму б не стварыць новую? Абавязкова, ці што, некаму падпарадкоўвацца?..

Гісторыя паказвае, што рэлігія не мёртвая, яна, як і ўсё ў жыцці, здольна мяняцца, удасканальвацца, рэфармавацца. Тое, што называюць царкоўным расколам і вялікім грэхам, на самай справе, пэўна, і зусім не грэх. Расколы і рэфармацыі адбываюцца ў выніку барацьбы з дыктатам, дагматызмам, у пошуку Ісціны, а іх ініцыятары, безумоўна, людзі творчыя. Калі ж Бог стварыў нас па вобразе і падабенстве сваім, то творца ў чалавеку — ад Бога. Чаму ж нам не стварыць свой храм? Няўжо Беларусь не здольная нарадзіць сваіх творцаў?

...А мо Бог пакінуў мяне, і думкі гэтыя — грэшныя? Бо вядуць жа яны туды, у тыя храмы, дзе моліцца кожны на сваёй роднай мове, а падчас імшы гучыць арган ды льецца спеў... зусім без слоў — узнёслы, светлы і шчымліва-высокі?.. Ды й ці патрэбны якія словы, каб даляцелі твае малітвы да Бога, калі жыве Ён у тваім сэрцы?..

**А. БУБАЛА**

*г. Верхнядзвінск*

# УВАСКРАШЭННЕ

## ВЯРТАННЕ З ПАЛОНУ СТРАХУ

***Дарагія чытачы! Мусім папярэдзіць, што перад вамі не зусім радавы матэрыял. І нават болей — зусім не радавы. І не проста матэрыял, а унікальны дакумент, які можа стаць знаходкай для даследчыкаў айчыннай гісторыі, чалавечай псіхікі і яшчэ немаведама чаго. Бо гісторыя, пра якую расказвае Павел Пруднікаў, і ўражвае, і здзіўляе, і прымушае яшчэ раз задумацца, што такое homo sapiens, якія ён мае адметнасці на нашай шматпакутнай зямлі і да чаго можа яго давесці хваленая сацыялістычная сістэма.***

На пачатку 30-х гадоў жыў у Мінску, пісаў вершы і шырока друкаваўся ў рэспубліканскіх выданнях здольны і ўжо досыць вядомы ў той час малады беларускі паэт, лепшы сябар майго юнацтва Змітро Віталін. А потым ён раптоўна знік. І нідзе пра яго не чулася ні слова, ні паўслова. Як быццам і не існавала чалавека. Толькі пазней мы даведаліся, што ў сакавіку 1933 года З. Віталіна сярод белага дня два сталінскія «сокалы» ў блакітных фуражках схапілі ў рэдакцыі часопіса «Шляхі калектывізацыі», дзе ён працаваў адказным сакратаром, сумяшчаючы работу з вучобай у педінстытуце. З таго чорнага, трагічнага дня і абарваліся яго сляды.

Неўзабаве і мяне напаткаў такі ж лёс, а калі вызваліўся і вярнуўся на радзіму, пачаў шукаць даўняга сябра. У 1947 годзе я з язвеннай хваробай трапіў у першую клінічную бальніцу г. Мінска. Маім суседам па бальнічным ложку аказаўся рабочы-чыгуначнік станцыі Калінкавічы. А я ведаў, што бацька З. Віталіна Рыгор Сергіевіч працаваў стрэлачнікам на гэтай станцыі. І калі я спытаў, ці ведае ён такога, той адказаў:

— Грышку Сергіевіча? Чаму ж не ведаю! Мы разам з ім працавалі. У яго быў сын пісьменнік — Змітро Віталін.

— А ён жывы?

— Загінуў без вестак на вайне. Матка атрымала пахаронку на яго і атрымлівае пенсію.

Пра тое ж, што бацьку Віталіна арыштавалі яшчэ ў 1937 годзе, і ён таксама «загінуў без вестак», толькі ўжо на яжова-сталінскім фронце, у ГУЛАГу, сусед мой «забыўся» сказаць.

Забягаючы наперад, скажу, што версія, быццам З. Віталін «загінуў без вестак», увайшла ў мой успамін пра яго, які я апублікаваў у «Чырвонай змене», а пасля ўключыў і ў кніжку мемуараў «Далёкае, але не забытае». Гэтую версію падхапілі і іншыя аўтары, і яна трапіла ў розныя пісьменніцкія даведнікі, у тым ліку і ў «Энцыклапедыю літаратуры і мастацтва Беларусі», бібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі».

Нягледзячы на пачутае ад суседа па бальнічным ложку, я ўсё ж працягваў пошукі свайго сябра. І вось, неяк будучы ў Калінкавічах, завітаў у школу N 6, якую, як даведаўся пазней, яшчэ да вайны будаваў сам... З. Віталін пасля адбыцця пакарання. Я папрасіў настаўнікаў і вучняў памагчы мне адшукаць іх земляка-паэта. Яны паабяцалі выканаць маю просьбу. Чула маё сэрца, што Змітро — жывы, але чамусьці маўчыць.

У сваім прадчуванні я не памыліўся. Прайшло колькі часу пасля той сустрэчы, і я нечакана атрымаў бандэроль-пасылку і адначасова пісьмо з Адэсы ад самога... З. Віталіна. У бандэролі ж былі тры ёмкія кніжкі прозы на рускай мове... Дзмітрыя Сергіевіча. Ад неспадзеўкі я ледзь не страціў прытомнасць. А як прачытаў пісьмо, дык ажно паздаравеў /якраз быў вельмі хворы/, стаў на ногі. І як было не радавацца, калі «ўваскрос» той, каго я шукаў 50 гадоў і з кім не бачыўся роўна 60 гадоў! Ад 1932 года, калі я паехаў на вучобу ў Ленінград. Праўда, улетку 1933 года хацеў спаткацца з ім, калі ён знаходзіўся ва ўнутранай турме ДПУ, але «стражы рэвалюцыі» не дазволілі.

У пісьме Змітро Віталін пісаў: «Дарагі Павел Іванавіч! Лёсу было суджана распарадзіцца так, каб на схіле жыцця нашага сустрэцца нам зноў, хоць бы і завочна. І гэта ўжо вялікае шчасце! Мілая жанчына, настаўніца СШ N 6 г. Калінкавічы Тамара Аляксандраўна Акулевіч, дала мне твой адрас, і я з усёй душой рады прывітаць цябе, спадзяюся, у добрым здароўі. Яна ж слова ў слова перапісала са старонак даведніка «Пісьменнікі Савецкай Беларусі» біяграфічную даведку пра Змітрака Віталіна, з якой вынікае, што я прапаў без вестак на франтах Айчыннай вайны. Але пачнём мы з таго, што я «з 1933 года жыў за межамі БССР». Не буду спыняцца на тым, што азначае «за межамі», думаю, што табе гэта вядома.

І так, пасля таго, як я адбыў свой тэрмін у ГУЛАГу, я перапрабаваў шмат прафесій — кім я толькі ні працаваў! Муляр на будоўлі /чаму навучыўся там, у лагеры, «вялікае дзякуй» бацьку народаў/, прэсаўшчыкам на фанернай фабрыцы «Чырвоны Кастрычнік» у горадзе Мазыры, інструктарам па дзікарастучых у раённай нарыхтоўчай канторы і г. д. ...Потым служыў тэрмінова ў Чырвонай Арміі /два гады/. Пасля дэмабілізацыі з арміі, як пісаў Кузьма Чорны ў сваёй аўтабіяграфіі, стаў шукаць «лягчэйшага хлеба». К таму часу /1938 г./ на Палессі пачала выходзіць вялікая, фарматам «Праўды» газета «Бальшавік Палесся». У рэдакцыі гэтай газеты працаваў малады пісьменнік Усевалад Краўчанка. Вось да яго я і пайшоў наконт работы. Губляць мне не было чаго, а выйграць я мог многае. Я думаў так: «Пісьменнік усё ж такі — родная душа, зразумее, дапаможа». Я расказаў Усеваладу Ігнатавічу ўсё, як было — хто я і што я. Паказаў сваю кніжку вершаў «Будзем жыць!» Ён уважліва выслухаў мяне, пагартаў мой зборнічак. Доўга думаў, потым сказаў: «Добра, што ты прыйшоў да мяне. Пра ўсё гэта — больш нікому ні слова. Забудзь, што ты Віталін. Пастаў на гэтым кропку. А працаваць ты ў нас будзеш. Я паклапачуся. Тым больш, што ў цябе ёсць вопыт газетнай работы». Ён памаўчаў крыху і сказаў амаль сурова: «Калі што — ты мне нічога не гаварыў і я цябе ведаць не ведаў. І прыдумай легенду, не для мяне — для начальства».

Гэта было не лішняе папярэджанне ў той страшны час. Легенду я прыдумаў і стаў працаваць у газеце... Усевалад гаварыў, каб я паставіў кропку на творчасці. Але я вырашыў паставіць толькі коску. Двойчы я спрабаваў прабіцца ў Беларускае выдавецтва, але ўжо пад уласным прозвішчам, ды толькі не тут было — далі ад варот паварот...»

Потым была вайна, якую З. Віталін /Дзмітрый Сергіевіч/ пранёс, як кажуць, на ўласных плячах ад пачатку да канца. Неаднойчы быў і паранены. Першыя два гады служыў радавым-сувязістам на Волхаўскім і Ленінградскім франтах. Абараняў і вызваляў ад блакады горад на Няве. З восені 1943 года пачаў працаваць у якасці карэспандэнта дывізійнай газеты «Вперед, за Родину!». Франтавыя дарогі правялі яго праз Наўгародчыну, Пскоўшчыну, Латвію, Літву, Польшчу, Германію, Чэхаславакію. Вызваляў ад акупантаў Венгрыю і Аўстрыю.

«Пасля вайны пачалася мая так званая «кар'ера». Мяне дэмабілізавалі і пакінулі ў кадрах, — працягвае расказ Віталін-Сергіевіч. — Я стаў працаваць у штодзённай газеце «За честь Родины» /Цэнтральная група войск/. Дыслацыраваліся мы ў Вене. Прабыў я там пяць гадоў».

У Вене Віталін-Сергіевіч сустрэў сваю жонку Мальвіну Марцінаўну з дачкой, якіх фашысты вывезлі туды яшчэ ў пачатку вайны. Усё гэта потым паслужыла матэрыялам для напісання аповесці «На голубом Дунае», якая была апублікавана ў 1955 годзе — праз 8 гадоў пасля напісання.

*(Працяг на стар. 12)*

## НА КАРЫСЦЬ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

**7 лютага ў Мінску ў зале пасяджэнняў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Асацыяцыі кнігавыдаўцоў, паліграфістаў і кнігараспаўсюджвальнікаў Беларусі.**

**Стварылася незалежная грамадская прафесійная арганізацыя, якая аб'ядноўвае прадстаўнікоў выдавецтваў, паліграфічных прадпрыемстваў, кнігагандлёвых арганізацый рэспублікі незалежна ад формы ўласнасці. Членамі Асацыяцыі могуць быць і фізічныя, і юрыдычныя асобы.**

**Знамянальна, што ў наш няпросты час людзі, адданыя кніжнай справе, знайшлі магчымасці і, галоўнае, паразуменне для аб'яднання на ніве нацыянальнага кнігавыдання. Асацыяцыя будзе абараняць эканамічныя, юрыдычныя правы і прафесійныя інтарэсы сваіх членаў, ствараць умовы для задавальнення чытацкага попыту насельніцтва рэспублікі, працягваць старажытныя традыцыі нацыянальнага кнігавыдання, удасканальваць выдавецкую дзейнасць, матэрыяльна-тэхнічную базу кнігавыдання, укараняючы сучасныя тэхналогіі і новую тэхніку.**

**На канферэнцыі абрана праўленне Асацыяцыі ў складзе 17 чалавек. Прэзідэнтам стаў Сяргей Вільянавіч Кузьмін, які зараз працуе дырэктарам-выдаўцом акцыянернага таварыства «Міжнародны Кніжны Дом».**

Н. К.

## НА ПАЛЕССІ — ЯГО ПЕСНЯ



**Уладзімір Марук нарадзіўся на Палессі, у вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна. На зямлі нерушавай і песеннай. Ці не таму ў яго творах столькі захаплення роднай зямлёй, любасці да прыроды. Ён любіць бываць сярод землякоў. Гэтая ж паездка да іх стала і свайго роду справаздачай паэта. У Ганцавіцкім прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы адбыўся яго творчы вечар. Навучэнцы і выкладчыкі падрыхтавалі кампазіцыю па творах земляка, вывучылі на памяць яго вершы.**

**У. Марук прыехаў не адзін, а з намеснікам старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі А. Пісьмянковым, прэзідэнтам дабрачыннага фонду садзеяння развіццю літаратуры і культуры «Палескі смутак» М. Мятліцкім, бардам А. Атаманавым. Яны гаварылі пра творчасць калегі, пра аптымізм яго лепшых вершаў, прывязанасць У. Марука да малой радзімы.**

**Але не менш гаварылі і самі творы. І ў чытанні навучэнцаў, і дзякуючы А. Атаманаву. Ён выканаў свае песні як на словы У. Марука, так і на вершы яго сяброў-равеснікаў.**

**Госці з Мінска сустрэліся таксама з работнікамі культуры ў раённай бібліятэцы. Выступае загадчык аддзела Ганцавіцкага райвыканкома Галіна Дайлід.**

## ВЫДАВЕЦ — БКГ

**Не перашкода паэзія... рэлігіі. Наадварот, шчырае і пранікнёнае паэтычнае слова дапамагае лепей успрымаць вечныя ісціны, задумвацца над агульначалавечымі каштоўнасцямі, з павагай і ўвагай ставіцца да мінулага. У гэтым пераконвае і зборнік вершаў І. Багдановіч «Вялікдзень», выдаўцом якога значыцца Беларуская Каталіцкая Грамада.**

## ДА ЮБІЛЕЮ ЛУЦКЕВІЧА

**110-годдзе з дня нараджэння Антона Луцкевіча адзначана ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Перад настаўнікамі, бібліятэкарамі, студэнтамі выступілі Уладзімір Конан, дырэктар музея М. Багдановіча Алесь Бяляцкі, мастак Мікола Купава.**

**Госці музея пазнаёміліся з выставай, наладжанай да гэтага юбілею.**

М. ТАНАНУШКА

Крытыка

# ДА ПРАБЛЕМЫ ЖЫВОЙ ДУШЫ

## ЗАМЕСТ РЭЦЭНЗІІ

Ведаю аднаго, чытае кніжкі з канца. Лухта, скажаце? Гэта як пагледзець.

Па-першае, гэта лепш, чым зусім нічога не чытаць /а да таго ў нас ідзе/.

Па-другое, кніжкі розныя бываюць: раманы, n-логіі, кніжкі вершаў... Бываюць творы, звязаныя логікай падзей, так што з канца зборніка сюжэт можна і не разблытаць, і бываюць зборы твораў без усялякай унутранай логікі, — быццам запрасілі ў дванаццаць на дзень нараджэння а трынаццатай гадзіне, і трэба спешна шукаць падарункі.

Нарэшце, ёсць пэўная катэгорыя людзей, якія цяжарныя здольнасцю чытаць хоць з сярэдзіны, хоць з канца. Гэта настаўнікі /чытаюць з мэтай знайсці памылкі/ і крытыкі /хочуць вызначыць архітэктоніку твора, стыль, мэтад, творчую манеру, творчы інструментарый і патэнцыял/.

Калі вярнуцца да твораў, то пры ўсёй стракатасці іх аб'ядноўвае адно: любы з іх можна назваць, сыходзячы з антыноміі «Жывая душа» — «Нежывая душа».

Праверым. «Айвэнга» — Жывая душа. «Габсэк» — Нежывая душа. «Міколка-паравоз» — Жывая душа. «Дон Кіхот» — таксама Жывая душа. «Атэла» — Душа жывая, але атручаная рэўнасцю. «Фауст» — Жывая душа. «Мёртвыя душы» — гм, здаецца, усё-ткі Нежывая. Хоць, калі на больш пільны погляд, то галоўны герой — гэта аўтар, а ягоная душа яшчэ якая жывая! Калі ж думку працягнуць далей /сапраўды, у кожным творы аўтар с а м а с ц в я р д ж а е ц ц а, а значыць, увекавечвае сваю жывую душу/, — у гэтым выпадку мне застаецца павіншаваць сябе і цябе, дасціпны чытач: к о ж н ы твор можа называцца «Жывая душа».

Кніжка з менавіта такой назвай трапіла неяк да мяне на стол, і я быў рады, што імя «Адольф Вaрановіч» на вокладцы мне нічога не гаворыць. У гэтым заўсёды ёсць свой шарм. Можна любіць свой горад, сяло, але авантура, шанц незнаёмага заўсёды вабяць. І калі ўлюбёны творца тэкстаў не новы з кожным творам, то хочацца пакінуць яго, як стары сумны дом, і набыць сабе нейкую іншую надзею. А мо пісьменнікам варта было б з кожным творам мяняць імя? Але гэта ўжо камунізм нейкі, бо як тады ім зарабіць на хлеб, як масава прадацца?

Дык вось, спадар Вaрановіч пісаў увачавідкі па-беларуску і яўна пра ўсе нашы балячкі, пісаў прама і непрыхавана, і ад гэтага станавілася несуцешна шкада ўсіх нас, таму што пры такім павароце падзей ствараецца сітуацыя, бы з тым самалётам, які абрынуўся з дзесяці тысяч: рама засталася, а людзей як карова языком, у малекулы і атамы ператварыліся. Ідэя тэксту — вось яна: жалезныя прэнты, папярэчныя, таўры і двутаўры. І людзі ў гэту раму такімі карыятыдамі, зваранымі з вугалка, прыстасаваныя. Нясуць, а дзе рама па разліку на супрамат заслабая, там аўтар электродаў не шкадуе, даварвае.

«У жыцці заўсёды ёсць месца дабрыні, кажуць людзі. Але ў жыцці не павінна быць месца злу. Чым цяжэй і суровей жыццё, тым ярчэй і часцей усплёскі дабрыні чалавечай».

«А трэба рабіць дабро, трэба жыць на карысць усіх людзей».

«Большай радасці для бацькоў не трэба, чым падзяка за добрае выхаванне дзяцей». І да т.п.

Прачытаўшы першыя два апавяданні, я падумаў было: Карпюк, але сапсаваны. Прачытаў трэцяе, якое дало назву зборніку, і задумаўся. Траяпольскі стаў па-беларуску пісаць? Але ж аўтар сам трапна кпіць з яго: «Успомнілася, як зусім нядаўна па тэлевізары паказвалі фільм «Белы Бім чорнае вуха». Жонка і дачка ўвесь час выціралі слёзы, а яму было незразумела, чаго яны плачуць. Ну ходзіць сабака, шукае гаспадара, ну і што?.. Сабаку любіць і шкадаваць прасцей. Чалавека — намнога складаней».

Пакпіў аўтар ды і скончыў на той самай сентыментальнай ноце. Сцяпан, маўляў, развярэдзіў жывую душу Біма, і той «хак-хак» даганяў машыну, якая везла ад яго Сцяпана, ды Сцяпан меў унутры катэгарычна адмоўны імператыў, і яны разлучыліся. Такія вось горкія ростані.

Тут мне на розум прыйшоў бык. Ішоў я аднойчы па горадзе, ішоў сабе, нікога не чапаў. Як раптам бачу: стаіць, збочыўшы, закрытая фура-скатавозка, а праз адкоўліну ў дашчаным кузаве на мяне ўтаропілася круглае вока. Бедная жывёліна прыціснулася галавой да дзіркі і спрамяняла на белы свет усю сваю наяўную існасць: паняверку, нутраны смяротны жах, жаданне ацалець — адным словам, немы крык. Немакрык.

Заўважу, што гэты грузавік быў адзіны за ўсё жыццё быка ягоны аўтамабіль, прычым адзін на галоў дваццаць. А мы, асабліва ў багатых краінах, можам дазволіць сабе мець адзін на галаву. Так што справа за тым, каб, дзякуючы экстрапаляцыям у духу вядомых аўтараў, імкнуцца да поўнай роўнасці. Не забіваць быка, больш таго: упадабаўшы яго, зрабіць ручным і вазіць на машыне. Сапраўды, чаму сабаку ці кату можна мець асабістага шафёра і калумбарый, а ўлюбёнаму быку — нельга?

А мо месці перад сабой дарогу, як тыбецкія манахі? Каб не раздушыць якую казюльку. Тым больш, што беларусы нібыта характар мяккі маюць, памяркоўны.

Між тым прырода гэтай любові да сабак — нелюбові да сабе падобных, на мой погляд, дык вельмі зразумелая: безгалосая жывёліна адданая чалавеку б е з у м о ў н а і ёсць, такім чынам, заўсёднай крыніцай спатолі, у той час як сяброўства з чалавекам вымагае ўжо і ад цябе пэўнага, большага ці меншага, самаахвяравання. Каб падтрымліваць вогнішча сяброўства з чалавекам, трэба самому падгортваць, не шкадуючы, жар сваёй душы, а вось з жывёлай прасцей. Іх прыязь нібы сама па сабе цябе грэе. Прыкмечу, аднак, малы хабар і тут патрэбен: карміць не будзеш — пасябруе з другім. Зусім у стылі нашых каўбаснікаў.

... Канчэльна мяне расчаравала Галя Радзевіч, жанчына здрайніцкага ўзросту з аднайменнага апавядання. Аніякае цягі да раўнапраўя! Не ўдалося сімпатызанту знайсці вольнае кватэры, каб палячыць, бо прыспела, салодкі нарыў граху, — у падвал не пайшла, завярнула дахаты. Што гэта — годнасць жанчыны, якая не чужаложыць а б ы - д з е? Лянота? /На Захадзе, каб у сяброўкі было занята, пайшлі б у гатэль — вось і ўвесь твор/. Калі ж гэта чарговая праява жывой душы, то дазвольце жахнуцца, бо не ведаю, плакаць ці смяяцца. Няма рады.

Заклаў я было гэты панаптыкум жывых душаў на месяц /каляндарны/, але варта было мне прачытаць потым дзве старонкі апавядання «Лявон Мялешка», як я заглынуў яго цалкам і цешыўся, як ніколі. Гэта ж пазнавальна: беларуская вёска! І гумар дасціпны! Далей у кніжцы дзве чарговыя «рамы», пафас якіх

Сярод кніг

# ПАГАРЫНСКАЯ ВЕНЕЦЫЯ

***«Я часцяком, асабліва ў маладыя гады, заседжваўся на зялёных кручах Гарыні разам з тваімі дзядзькамі, ага... Старажытныя людзі. Твары часоў Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага! Цяпер такіх не сустрэнеш нідзе, акрамя Пагарыння. Не губляй іх з поля зроку. Твае гарадчукі, бог дасць, яшчэ выведуць цябе на сапраўдную дарогу...»***

*/З размовы У. Караткевіча з У.Глушаковым/*

Словы знакамітага пісьменніка аказаліся прарочымі. У другой палове 1993 года выдавецтва «Мастацкая літаратура» надрукавала сямейную хроніку У. Глушакова «Расплата». У ёй дзейнічаюць тыя ж героі, што і ў аповесці «Насенне». У цэнтры ўвагі пісьменніка — гарадчук Сцяпан Крыга і яго сям'я, Пагарынне ў мінулым, сённяшнім і будучым.

... Не песціла жыццё Крыгу, гэтага пасвойму далікатнага і разумнага чалавека: суровае дзяцінства /спалены бацькаў хутар/, вучоба ў сямігодцы і школе міліцыі, вестка пра гібель братоў, не вярнуліся з Нямеччыны сёстры. Ваяваў разведчыкам пад Ельняй і Сталінградам, вайну «чатыры гады еў з зямлёю і крывёю», пры фарсіраванні Дняпра небяспечна паранены ў галаву, кантужаны, узнагароджаны. Смерць «пасвіла» Сцяпана Самойлавіча на кожным кроку, не злічыць дзірак ад куляў на яго салдацкім шынялі. Выжыў. Жыццёвы лёс закідае «магілёўца» ў Давыд-Гарадок, дзе ён працуе на суднаверфі, старшыною ў калгасе. Падсвядома выспявае рашэнне выбіцца ў багатыя дзялкі, каб «яму ў жыцці саступалі, каб перад ім раскланьваліся і былі нясмелымі». Яго адным з першых уцягнула кветкавая ліхаманка, кідаючы то ў Забайкалле, то ў Краснаярскі ці Хабараўскі край. З'явіліся шалёныя «тышчы», а з імі запойныя кампаніі ды сваркі і калатнеча ў сям'і. Рэдка выпадалі шчаслівыя для дзяцей часіны, калі бацька чытаў сынам ля натопленай грубкі казкі Афанасьева ці задумена граў на гармоніку «Есть на Волге утёс...» Спатрэбілася двойчы пабыць у лячэбніцы, перш чым выціснуць з сябе словы наказу сыну: «Па майму следу не ідзі. Барані цябе бог ад вялікіх грошай, такой вот славы». Так, жорсткім ён быў чалавекам, нават сам не ведаў, за што так люта іншы раз ненавідзіць людзей, а часам, да слёз расчуліўшыся, гатовы кожнага сустрэчнага цалаваць. Ці не таму так ачарсцвела душа Сцяпана Крыгі, што кветкі акаянныя ператварылі вялікіх і ласкавых хлопцаў у «вясеннікаў»-драпежнікаў, атруцілі жыццё ім і іх сем'ям, зрабілі чужымі адзін аднаму?..

З замілаванасцю і пяшчотай аўтар хронікі апавядае пра маці, суседа Міхайлавіча, які вельмі ж нагадвае сваім умельствам славутага дзядзьку Антося з коласаўскай «Новай зямлі». Па-мастацку спісаны з жыцця бытавыя сцэнкі: прыгатаванне рыбнай юшкі, крывяной каўбасы і цуду-смальцу са свежыны, вясенні паводак на Гарыні, «выбіванне» дроў у Турска-Лядзецкім лясніцтве. А Калядкі са «звяздой» і «конікам», Вадохрышча! Яны не пакінуць абыякавымі нават ачарсцвелыя душы сваім пяшчотна-шчымлівым напамінкам аб непаўторным маленстве і юнацтве. Шмат цудоўных пейзажных замалёвак: прыгожыя дываны кветак-градак, апісанне Сежкі і Лужка, навальніцы на Прыпяці. Пахвалы заслугоўваюць лірычныя адступленні аўтара аб Давыд-Гарадку і родным Палессі, аб доме і бацьках, аб жыцці і смерці, вытоках нашай духоўнай дэфармацыі. Цёпла і сардэчна вядзецца аповяд аб народных умельцах-гарадчуках: лодачніках, печніках, краўцах, кавалях, гарбарах, цяслях, бондарах, разьбярах, жывапісцах, вырабы якіх вядомы ў Еўропе, Амерыцы, далёкай Аўстраліі.

Шырока і ўсебакова прадстаўлена ў хроніцы гісторыя і геаграфія Століншчыны. Тут і гістарычнае мінулае Давыд-Гарадка, і райцэнтр Столін з навакольнымі вёскамі: Альшаны, Ольпень, Бухлічы, Варані, Велямічы, Лядзец, Плотніца, Рамель, Рубель, Струга, Сямігосцічы, Туры, Харомск, Хорск,

знаходзіць пэўны водгалас, бо смерць — тэма для ўсіх актуальная, асабліва смерць блізкіх, але адчуваеш, што можна сказаць лепш, што форма не дацягвае да прадмета гаворкі.

Нарэшце, у канцы «негумарыстычных» апавяданняў /бо далей ішла нізка гэткіх/ быў тэкст «Халодны вецер над зямлёй». Мне стала шкада, што апавяданне не стаяла спачатку, бо гэты самалёт хоць і меў, зусім у стылі аўтара, непрыхаваную «раму», але ён л я ц е ў, і ў ім сядзелі жывыя людзі, і яны спараджалі той маленькі цуд, які ўласцівы мастацкаму твору — абуджалі суперажыванне, клікалі душу ў палёт. Праўда, мая душа пытала ў розуму: а ці важна, ад чаго чалавек памёр, ад грыпу ці ад раку? Ці важна, хто згвалціў жанчыну — брудны люмпен-пралетар ці новы багач з душою жывёлы? Абое рабое. Пры чым тут упакоўка, калі і тут, і там, даруйце, г... Гэта было, відаць, адзіным слабым месцам названага тэксту.

На адным дыханні прачыталіся гумарыстычныя апавяданні. Закрыўшы кніжку, я быў задаволены, як бывае задаволены вусень, які спажыў сакавіты зялёны ліст, але пры гэтым я помню, што на ім шмат дзе былі рудыя сухія плямы. Там не было жыцця, вільготнай мякаці, а была толькі рама нітак-пражылкаў і нежывая арганіка.

Чаму? Гэта іншае пытанне. Відаць, у аўтара ёсць амплуа — гумар. У астатнім ён рызыкуе, хоць, падумаўшы, дык рызыкі аніякае. Вусень і восеньскі лісток тут падказам. Для чытача зборнік сапраўды цэльны лісток, партрэт аўтара, а для рэдактара гэта яшчэ шматлісце, і ніхто не замінае адсартаваць.

Ёсць і другая магчымасць растлумачыць, чаму сп. А. Варановіч прыдбаў калекцыю «сухіх лістоў». Думаю, што ён тут адэпт нашае, чаго тут хаваць, пакуль што вясковае нацыі, якая толькі пачынае прарастаць у горад. Каб і хацеў, але вясковаму беларусу цяжка пісаць пра горад з яго трасянкавай і часта небеларускай прыродай. Цяжка пісаць па-беларуску, калі тут амаль няма беларускіх асяродкаў. Заўважу, аднак, што не гэтым тлумачацца аўтарскія неахайнасці накшталт «зачапіўся руляй пушкі», а вось пэўная штучнасць мовы маладых герояў Варановіча, аўтарская індыкацыя, што вось, маўляў, Антон загаманіў па-вясковаму, невыпадковая. Гэты разлом не мог не адбіцца на «здароўі» адпаведных тэкстаў.

Гэта агульная наша праблема, наша хвароба, і яе лепшы лекар — час. Засталася, праўда, яшчэ малая драбніца — дабіцца, каб ён працаваў на нас.

**Яўген БЯЛАСІН**

*г. Брэст*

---

Хотамель, Цераблічы і інш., і рэкі: Прыпяць, Гарынь, Ствіга, Льва. Фігуруюць канкрэтныя асобы: урач Райскі, былы кіраўнік раёна і вобласці К. В. Мацюшэўскі, давыд-гарадоцкія мэры, шматлікія гарадчукі. Самабытная, трапная мова твора, насычаная мясцовымі дыялектамі.

Сціскаецца сэрца сына Сцяпана Крыгі, калі разважае аб абвалаванні Прыпяці, бяздумнай меліярацыі Палесся, накіраванні Гарыні ў абход Давыд-Гарадка. «Не будзе нам апраўдання за згвалтаванне ракі», — падсумоўвае ён. Ва унісон яму гучыць і рэпліка вопытнага старога лесніка: «Людзі, навошта ж падсякаеце сук, на якім седзіцё?! Потым спахопіцеся, ды позна будзе...» Трывожным набатам гучыць аповяд аб чарнобыльскай бядзе — расплата за яе яшчэ наперадзе!

«Расплата» — кніга аб міласэрнасці і чалавечнасці, — той жыццёвай пупавіне, зніштожыўшы якую чалавек перастае быць Чалавекам.

«Расплата» — не першая кніга пра старажытную Пагарынскую Венецыю, як трапна ахрысціў Давыд-Гарадок Уладзімір Караткевіч. Добра вядома аповесць прыезджай рускай пісьменніцы Лідзіі Абухавай «Глыбінь-Гарадок». Сямейная хроніка карэннага жыхара Давыд-Гарадка Уладзіміра Глушакова створана па заказе сэрца і з'яўляецца творам аўтабіяграфічным.

**Леанід РАМАНЕНКА,**
настаўнік

*Столінскі раён*

---

Часопісы ў студзені

# З АПАВЯДАННЯЎ БЫКАВА ПАЧАТАК...

*Які* пачатак — такім і год будзе. Тычыцца гэта не толькі чалавека. Скажам, часопісы таксама рыхтуюцца да чарговага года і стараюцца змясціць у першых нумарах самыя лепшыя творы, што ёсць у рэдакцыйным партфелі.

Першы сёлетні нумар «Полымя» адкрываецца апавяданнямі В. Быкава. Наш знакаміты празаік зноў вярнуўся да жанру, у якім мае немалыя набыткі, хоць, безумоўна, творчыя дасягненні Васіля Уладзіміравіча крытыка найперш звязвае з аповесцю. Гэтым разам В. Быкаў напісаў творы не проста пра вайну, а пра вайну, можна сказаць, невядомую /два з трох, прапанаваных чытачу/. Падзеі, што разгортваюцца ў іх, звязаны са Слуцкім паўстаннем супраць бальшавізму, пра якое цяпер шмат гаворыцца, а дзякуючы намаганням БНФ, колькі разоў адзначаліся і ўгодкі яго.

У падзеях мінулага ўсе акцэнты расстаўляць гісторыкі. У літаратуры — іншая задача, хоць, можа, і больш складаная: даць псіхалагічную ацэнку таму, што адбывалася. Прытым зрабіць гэта праз характары неардынарныя і, як бы мы ні «адштурхоўвалі» сёння гэтае слова — тыповыя. У апавяданні «На Чорных лядах» як быццам усё гэта ёсць.

І надзвычайнасць сітуацыі, калі неабходна рашуча і беспаваротна рабіць выбар: «Называецца — даваяваліся!.. Тое, што яны даваяваліся дарэшты, да астатняй магчымасці, камандзір зразумеў не цяпер і не ўчора, як іх прыціснулі да ракі і секлі ў кустоўі з кулямётаў, а яны толькі агрызаліся рэдкімі вінтовачнымі стрэламі. І нават не тыдзень таму, як змардаваныя, галодныя, невялічкаю групай, рэштаю батальёна туляліся па лесе, не ведаючы, куды паткнуцца, дзе раздабыць правіянту, табакі, пару начных гадзін адпачыць у спакоі». І моцныя, валявыя характары. Не кожны ж адважыцца на самагубства ў імя вялікай ідэі. А тут усе як адзін вырашылі загінуць, абы не здацца бальшавікам. Камандзір Мяцельскі нават не падштурхоўвае людзей на гэты ўчынак. Ён толькі дзейнічае так, як хочуць дзейнічаць усе. У тым ліку і малалетні Валодзька Сулашчык, хоць, пагодзімся, становішча яго асабліва трагічнае. Так мала пражыта на свеце: «Думкі, аднак, самі лезлі ў галаву і самыя неадчэпныя з іх былі пра сябе. Не хацелася паміраць Валодзьку Сулашчыку, хацелася жыць. Ды, мусіць, не выпадала. Як не выпала жыць ягонаму бацьку, шмат каму з шарагоўцаў ды камандзіраў іхняй Слуцкай брыгады».

Але што наканавана — тое наканавана. І вось ужо ўсе па чарзе капаюць яму, у якой, таксама па чарзе, праз некаторы час усе пусцяць у сябе апошнюю кулю. Усе? У самы апошні момант высвятліцца, што не ўсе. Мяцельскі пашкадуе Валодзьку. Акурат тады, калі хлапчук ступіць на край ямы «амаль змярцвелы»:

«— Сулашчык! — гукнуў да яго камандзір. — Пастой...

Валодзька спыніўся, ледзь утрымаўшыся на беражку ямы. Ён нават не зірнуў туды, штосьці новае адчуўшы у голасе камандзіра.

— Табе, Сулашчык, заданне: закапаць, зараўняць. Каб следу не асталося. І — жыві!

— Я!

— Ты, а хто ж. Жыві. За нас. За бацьку. Дай я цябе абдыму».

Учынак Мяцельскага, нічога не скажаш, высакародны, гуманны. Хаця, калі разабрацца, у ягоным жаданні пакінуць Сулашчыка жывым не так і проста ўсё, як падаецца на першы погляд. Проста, калі прытрымлівацца самога факта: жывы! Але ж уся справа ў тым, што за некалькі мінут да таго, як прыняць канчатковае рашэнне і вырашыць тым самым Валодзькаў лёс, Мяцельскі і думаць не думаў пра тое. Адбылося гэта па сутнасці выпадкова. Калі ў жывых засталася чацвёра /іншыя, кажучы, выканалі свой абавязак да канца, пусціўшы ў сябе кулю/, камандзір успомніў, што «ў барабане нагана яшчэ заставалася тры патроны». Заўважце: патроны — тры, а жывых — чацвёра. Значыць, гуманізм Мяцельскага па сутнасці як бы вымушаны. І тым самым у маіх вачах, вачах чытача, арэол гераічнасці, мужнасці, якія намаганнямі аўтара ствараецца вакол асобы гэтага чалавека, знікае. Бо, як гэта ні парадаксальна, у дадзены момант герой апавядання ў нечым нагадвае бальшавіцкіх камісараў грамадзянскай вайны. Розніца паміж імі і Мяцельскім хіба што ў тым, што першыя адстойвалі класавую ідэю, верылі ў перамогу сусветнай рэвалюцыі і дзеля гэтага ішлі на любыя ахвяры, а Мяцельскім рухае ідэя нацыянальная. А вось празмерная апантанасць, гатовая перарасці ў фанатызм і якая да дабра не прыводзіць, — тая ж самая. І зусім не важна, у якой яна «афарбоўцы». Галоўнае, што чалавек, жыццё канкрэтнага чалавека пад увагу не прымаецца.

Аўтар апавядання, як адчуваецца па ходу чытання твора, наўрад ці разлічваў на падобны «вынік». Што ж, значыць, матэрыял у некаторы момант як бы перастаў яго «слухацца»? Адбылося гэта, на маю думку, па той прычыне, што да падзей, узноўленых у апавяданні, літаратуры яшчэ падступацца і падступацца. Гэта на першы погляд падаецца, што ў іх усё вельмі проста і адразу можна вызначыць, хто быў хто. Што-што, а яўная прастата, пэўна, якраз і падводзіць.

Не хацеў бы я, аднак, каб Васіль Уладзіміравіч пакрыўдзіўся, але ёсць у творы і мясціны, калі можна падумаць, што ад праследавання ўцякаюць зусім не слуцкія паўстанцы, а — чырвонаармейцы, за якімі ледзь не па пятах ідуць гітлераўцы, ці — больш таго — вырываюцца з блакады партызаны: «Ад самае раніцы яны аслабела валакліся па лесе, кожны стараўся не дужа адстаць ад папярэдняга, а ўсе разам — ад камандзіра, які то хістка сігаў наперадзе, то спыняўся сярод хваін, слухаў, азіраўся. Азіраючыся, ён паварочваўся ўсім целам, бо не мог паварушыць галавой на балючай, абвязанай брудным рушніком шыі. Параненая яшчэ на пачатку зімы шыя ўсё не гаілася, гніла, рудая жыжа цякла з яе па грудзях, на жывот, павязка заўжды была мокрая...»

І ў апавяданні «Перад канцом» герой з тых, каго не так даўно яшчэ адносілі да «антыгерояў» — паручнік Глушкевіч, якога затрымала ЧК. Тут В. Быкаў надзіва пераканаўча раскрывае псіхалогію таго, хто не прыняў рэвалюцыю і тым самым асудзіў сябе на блуканні па пакутах. Яшчэ большы псіхалагізм адчуваецца ў той момант, калі пісьменнік дае адчуць нам атмасферу, якая пануе ў камеры, куды выпадкова трапілі людзі розных палітычных поглядаў, а то і зусім пазбаўленых іх. Апошнія якраз вельмі страшныя, бо іх паводзіны — непрадказальныя. І найбольш небяспека, як высвятляецца неўзабаве, паручніку ад Блатняка. «... раптам ён залямантаваў, перабіраючы нагамі ў стаптаных, з глінай на сподзе, гамашах:

— Таварыш чэка, ён бандыт! Яны ўцячы згаварыліся, і ўдушыць мяне, каб я іх не выдаў. Забярыце іх... Бандыта і во — ахвіцэра...»

Пасля гэтага Глушкевіча выводзяць з камеры: «Ён з нясцерпнаю горычу думаў: «Трэба ж так памыліцца ў жыцці! Вядома, не першы раз. Ды, мабыць, апошні». І завяршэнне апавядання, якое расстаўляе, як кажуць, усе кропкі на месца: «Толькі гэта і суцяшала яго перад непазбежным канцом...»

Трэцяе апавяданне В. Быкава «Бедныя людзі» — з блізкай нам сучаснасці. На прафесара Скварыша за яго вальнадумства «настукалі». Прафесара Скварыша выключылі з членаў КПСС. Прафесар Скварыш у прадчуванні, што, бадай, трэба чакаць яшчэ і нечага горшага. А тут раптам заяўляецца да яго аспірант Краснянскі, пачынае спачуваць і таксама выказвае... крамольныя думкі:

«... падобна было, што Краснянскі гаварыў шчыра, сапраўды хацеў суцешыць яго і абураўся на несправядлівасць улады». Але, апёкшыся аднойчы, чалавек усяго баіцца. Скварыш пачынае «самакапанне». Скварыш бачыць у гэтым візіце спробу і надалей кантраляваць яго ўчынкі: Краснянскі проста падасланы да яго... У роспачы прафесар піша на любімага аспіранта данос.

«Бедны, няшчасны аспірант Краснянскі.

Бедны, няшчасны прафесар Скварыш».

Гэтай канстатацыяй і завяршаецца апавяданне «Бедныя людзі». Зусім як у Дастаеўскага. Сцвярджэнне, якое вымагае роздуму — доўгага, пакутлівага і такога неабходнага кожнаму з нас. Гэтага роздуму вымагаюць усе апавяданні В. Быкава, прапанаваныя «Полымем». Нягледзячы на тое, што ў першым з іх, як ужо гаварылася, і ёсць пэўная псіхалагічная нацяжка...

Ды пагаворым пра што-небудзь больш радаснае, чым смерць, даносы. Пагаворым пра паэзію. Пра творы Р. Барадуліна ў тым жа «Полымі». Чытаць іх — адно задавальненне. Уся падборка «Сэрца стане Віфліемам...» уражвае і глыбінёй роздуму над хуткаплыннасцю жыцця, і адшліфаванасцю радка Майстра. Р. Барадулін аднолькава прываблівае. І тады, калі скандэнсаванасць думкі, нечаканасць параўнання спалучаюцца з ашчаднасцю слова, як у чатырохрадкоўі:

**Мароз. Прытома. Беласцежжа.**
**Лянее люты ля мяжы.**
**І мне пачулася з разбежжа:**
**Сініцы точаць лемяшы...**

І тады, калі вобраз разгорнуты, як у гэтым безназоўным вершы:

**Як цяжка было данесці буханку**
**Ад прылаўка да ганку**
**Хаты,**
**Дзе нішчымнічала паслявайна.**
**Буханка —**
**Жывою была яна.**
**І ты трымаўся праз сілу,**
**Бо, гарачая, так і прасіла,**
**Каб ушчыкнуў яе,**
**Каб упіўся ў яе**
**Не толькі вачыма.**

**Як пазней,**
**Калі з вечарынкі йшлі,**
**Зразумела, не па зямлі,**
**Гарачая не толькі ад скокаў**
**Дзяўчына...**

Першыя нумары часопісаў апавясцілі і аб з'яўленні двух цікавых, па-мойму, раманаў. У «Полымі» — пачатак «Явару з калінаю» М. Кусянкова, у «Маладосці» — таксама пачатак рамана «Не аднойчы забіты» У. Рубанава. Безумоўна, шырэй пра гэтыя творы крытыка яшчэ пагаворыць, а пакуль адзначу, што два нашы празаікі, пішучы ў розных манерах /М. Кусянкоў схільны да прозы традыцыйнай, У. Рубанаў жа не адмаўляецца і ад эксперыменту/, з аднолькавай увагай задумваюцца над складанымі працэсамі ў жыцці грамадства, над праблемамі бездухоўнасці. М. Кусянкоў з асаблівай пяшчотай выпісвае вобраз ляснога тэхніка Івана Гаркушы, які, пры ўсёй яго «дзівацкасці», не растраціў цеплыні і душэўнай шчодрасці. У Рубанава выразнасцю пазіцыі прыцягвае галоўны герой — журналіст і пісьменнік Кастусь Чуйкевіч.

З «мастацкага» асяроддзя ўзяты В. Куртаніч і паэт Стась Брыг, герой апавядання «Пакіньце яго плакаць» /«Маладосць»/. Справа не ў тым, што, магчыма, нехта пазнае сябе ў ім ці знойдзе канкрэтнага прататыпа. Важна, што апавяданне прагучала, а дэбют В. Куртаніч у галіне прозы — абнадзейвае.

Ёсць што пачытаць у «Беларусі» і «Нёмане». З публікацый апошняга вылучыў бы «закончаныя раздзелы незакончанай кнігі» «Vixi» А. Адамовіча, перад гэтым апублікаваный у «Полымі», а таксама старонкі з «Дзённіка пісьменніка» В. Карамазава «Паеду жыць у правінцыю» — яны шмат даюць душы. А што да вершаў М. Шэлехава, то застаецца пашкадаваць, што такі самабытны паэт /піша ён і па-беларуску, на беларускай мове і кнігу выдаў/ абдзелены ўвагай крытыкі...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ЛіМ
ЧАСАПІС

# ПЕРАКЛАДНАЯ НАВІНКА




**Гэтым разам ёю стаў вядомы раман Роберта Льюіса Стывенсана «Востраў скарбаў», якім зачытваецца ўжо не адно пакаленне як дарослых, так і дзяцей. Найперш, вядома, падлеткаў, якіх вабіць рамантыка падарожжаў, надзвычайных здарэнняў і прыгод.**

**Пераклаў раман на беларускую мову Алесь Асташонак. Выпусціла выдавецтва «Юнацтва». Праўда, кніга з-за фінансавых цяжкасцей доўга прабівала дарогу ў свет, пераносілася з плана ў план. Тым больш радасная з ёй сустрэча. Да ўсяго, выданне з густам аформлена /мастак Уладзімір Гладкевіч/, выйшла ў палепшаным паліграфічным выкананні.**

# СЕМ ГАДОЎ ПРАБІВАЛА ДАРОГУ




**да чытача гэтая кніга. Хаця, правільней сказаць, не столькі да чытача, колькі да людзей, захопленых музыкай, бо зборнік «Лірнік», аўтарам якога з'яўляецца наш знакаміты музыка і адначасова рэстаўратар старадаўніх беларускіх музычных інструментаў Уладзімір Пузыня, не што іншае, як «Школа ігры на беларускіх народных інструментах». Уладзімір Якаўлевіч знаёміць з сакрэтамі авалодвання ігры на дудцы, жалейцы, ліры, сурме, дудзе. У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу выкарыстаны творы кампазітараў Г. Гарэлавай, У. Дамарацкага, А. Залётнева, В. і І. Кузняцовых, У. Кур'яна, І. Лучанка, Г. Цітовіча і іншых.**

**А каб усё ж «Лірнік» з'явіўся, пастараліся Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускі інстытут праблем культуры. Мастацкі рэдактар выдання — В. Войцік, рэдактар — Л. Баярышава. Наклад кнігі ўсяго адна тысяча адпаведнікаў, ды гэта ўжо наша пастаянная бяда. Тым не менш, свята адбылося. Свята народнай беларускай музыкі.**

Тэкст і фота Уладзіміра КРУКА

---

Паэзія

Казімір КАМЕЙША



# З НАСТРОЕМ ТАКІМ І ЖЫВІЦЕ

●

Будзе свята і на нашай вуліцы —
Некалі сябе я суцяшаў.
Будзе свята,
Свята наша збудзецца.
Ёсць жа яно ў птушкі й мураша.

Будзе свята — свет увесь пабачыць.
А спачатку праца, без лянот.
Я на тое свята так ішачыў,
За станком выцягваўся, як кнот.

Стаўся стройным,
лёгкасці спартыўнай,
Я на пяцігодку так пацеў.
Па галоўцы гладзіў бос партыйны,
А сябе чамусь — па жываце.

Вось іду па вуліцы па роднае,
Вось іду у шчасце у сваё,
А на ёй шпана таўчэцца розная
А на ёй ніякіх заваёў.

Ёсць піўны шалман на нашай вуліцы,
Будачка шавецкая й турма,
Ходзіць певень дапатопны з курыцай,
Толькі свята ўсё няма, няма...

●

— Лепш наш булён,
чым лес Булёнскі, —
Казаў калісьці пан Палонскі. —
Ты з боку не глядзі якога:
Булён і лес наш анічога.

Пан памяццю даўно ўжо стаўся,
Ад пана бэзу куст застаўся.
Калі вясной ён задыміцца,
Дык плача голуб на званіцы.
Калісь вясёлы, бурактке,
Кармлёны з панскае рукі,
Ён з доляй гэтай не згадзіўся

І там, ля неба, пасяліўся,
Дзе вольна птахам
і часамі
Па-над прыціхлымі званамі
У аблачынцы нечаканай
Душа уваскрасае пана.
Яна плыве над лесам даўнім,
Над непражытымі гадамі.
Пасля пакружыцца над вёскай
І задыміцца у пялёстках.

Буяе бэз і голуб плача,
І ўсё душа здалёку бачыць.

## ПАЎДЗЁННЕ ВЯЛІКАГА ГОРАДА

У час у гэты найгарачы,
Хоць па любой бяры шкале,
Якіх варункаў не пабачыш
У гулкім горада катле.

Нас не гадзіннік сварыць з часам,
Хоць час ляціць, а не паўзе.
Атака вос на бочку з квасам
І смага ў доўгае чарзе.

Свой круг нястомна стрэлка чэрціць,
Хвіліны у чарзе бягуць.
Усюды чэргі, чэргі, чэргі,
І чэргі на саму чаргу.

Дух агародны, дух пякарны
І дух зусім чужых дароў.
І будак лад не сабакарны
З прыбрэхам вострым гандляроў.

Пусты мой дзень, як і авоська,
Я не кажу пра кашалёк.
Ну а патрэб маіх сам коська
Цыганскі б той не павалок.

Знаёмы твар і выпадковы,
І чыйсьці згублены гаплік.
А дзе ж той майстра абутковы?
Ён недзе пры Хрушчове знік.
Хаця па ім і не сумуе
Замежнай пробы чаравік.

Хоць камерсант тут нешта вудзіць,
Ды сумна ў шапцы жабрака.
Вірыць, цячэ двурусла вуліц
Аўтабрыдотная рака.

І сябру ты гамоніш з болем:
«Ці да дабра ўсё прывядзе.
Іх тут, машын, намнога болей,
Чым рыбы ў свіслацкай вадзе».

Не скажаш ты, хоць коле зрэнкі,
Да густу больш кладзеца што —
Ці міні моднае студэнткі,
Ці міністэрскае аўто.

То след былой ці новай звычкі,
Але няхай яе кадук,
Не возьмеш штурмам электрычкі —
Не трапіш на сваю граду.

Жыцця затлумленага боўцень,
Пяе, гудзе, бушуе поўдзень,
Бярэ ён лёгка як пяе
І грошы й думкі ўсе мае,
А рэшту снамі аддае.

●

Ясна ў двары запалалі імшалкі,
Недзе ў касцёле ідзе імша.
А за сцяною бесперастанку
Шумна шаргоча шаша.

Мама спазнілася на імшу,
Слухае мама сягоння шашу.

Можа, сынок,
Можа, ўнучка часамі,
Можа, наедуць, ды не...
І залацістымі кутасамі
Віснуць імшалкі ў акне.

Думае мама,
Мама чакае
Вёснамі,
зімамі
і вякамі.

Але аднойчы адчыняцца дзверы,
Выпадзе з рук ссірацела скарачык.
Гляне яна і вачам не паверыць —
Сына з чужою жанчынай пабачыць.

Кінецца ў сені, потым заплача,
Запрычытае і змоўкне ураз.
— Божа, чаму ж гэта так, не інакай,
Божа, чаму ж гэта ды няўдача, —
І перахрысціцца на абраз.

А за сцяною шуміць шаша,
Недзе ў касцёле ідзе імша,
І баліць-баліць у мамы душа...

●

Пасля навальніцы,
Пад водгалас грому,
Вясёлы і смешны, вяртаўся дадому.
Смяяліся лужыны шыракарота
Вясёлаю сонечнай пазалотай,
Зялёнае свежасці лёгкія хвалі
Вясну маю ясным агнём калыхалі.
Зямля ўся гула, як зялёнае мора,
Па-райску гучалі птушыныя хоры.
Зялёны мой цвет падхапіў бурштыновы
І недзе балюча прачнуўся барвовы,
І столькі адценняў адразу знайшлося
У птушак,
і дрэў,
і травы сугалоссі.
Былі мы з вясною раднёю па духу,
І я пра цябе так вяснова падумаў.
Суцешыла й тая, крылатая ў жыце:
— Жыць-жыць!
Вось з настроем такім і жывіце!
— А колькі хоць часу? —
Спытаў выпадкова
У хітрай зязюлі з тутэйшай дубровы.
І быў той адказ аж занадта суровы:
— Жыцця за палову...

●

Чарнічны лета чарнавік
Нанова прачытаны.
Знаёмы пень, як чаравік,
Што дзеразой зашнураваны.

І ложа млеўнага лаўжа
З клубочкам крэпавым гадзюкі,
І ў кіслым цемрыве каша
Твае спалоханыя рукі.

За грыб, за пень,
За ясны дзень —
За ўсё зачэпішся у леце.
Вунь рыжыкоўна як ідзе
Пад нож твой той руды ў берэце.

Ён у начы расці пачаў
У гэтым імшаным бязлюддзі,
Ён і ў заплюшчаных вачах
Расці яшчэ тры ночы будзе.



*Малюнак У.СКРЫГАНАВА*

Проза

# КАРОТКІЯ НАВЕЛЫ

Яраслаў ПАРХУТА



## СЦЕЖКА Ў ЖЫЦЕ

Божухна! Яна зноў мне снілася, тая сцежка, што спрадвеку збягала з пагорка на пагорак, нітуючы сабою дзве вёсачкі — нашу і суседнюю.

Бывала, сажнуць ярыну, узаруць поле — і сцежка памрэ. А праз дзень-два зірнеш — бытта хто нанава вузенькі сувойчык палатна разаслаў па зямлі. Сцежка зноў нарадзілася!

Міналі восень, зіма, вясна, і ўжо схіляла над сцежкаю калоссе жыта. І мак-агмень падступаў да яе і запальваў свае ліхтарыкі. І маладыя перапёлачкі любілі пабегаць па ёй на зыходзе дня. Добра было на сцежцы і босым дзіцячым нагам.

А тады... Тады вёсачкай ляцела старая Маланка, крычучы:

— На сцежцы чалавек! Ляжыць і не варушыцца!..

Усе кінуліся за Маланкаю. А прыбеглі — паслупянелі. На самым высокім пагорачку ў паўкроку ад сцежкі сапраўды ляжаў чалавек. Тварам дагары. Патухлыя вочы з невыказнай жальбою пазіралі ў неба. Аднаею рукою чалавек прыціскаў да сябе пасму яшчэ зеленаватых жыцін. Другая рука неяк ненатуральна заламалася за спіну, і ад таго сарочка на ім была наросхрыст. На жоўтай грудзіне, якраз наўпроць сэрца, сінела дзірачка. Невялічкая. Як ткнуць саломінай. Аднак вакол — ні крывіначкі...

Я жахнуўся, кінуўся са сцежкі, упаў ніцма і заплакаў. Плакаў і чакаў: чалавек нарэшце заламанаю рукою адштурхнецца ад зямлі, пакіне ў спакоі зеленаватыя жыціны і, не зважаючы на жанок і дзяцей, якія акружылі яго, пабяжыць за мною...

Але тупату ног не чуваць было. Чуўся толькі нясмелы галасок перапёлкі:

— Жыць! Жыць-жыць!..

Да слыху далятаі яшчэ і жаночыя галасы:

— І трэба ж... Брат брата... З-за нейкай палітыкі...

... Гэта было апошнім летам апошняй вайны.

## ПАКАРАННЕ

Сяджу на лавачцы ў гарадскім скверыку і слухаю старога брагінца:

— Чарнабыль тое самае, што і хвашызм, — кажа ён спакойным голасам. — І ад таго, і ад таго адно: знішчэнне люду... Вось пра майго суседа, Левіна, паслухай. Як прыйшла немчура, то ён, Левін, змікіціў што да чаго і стаў хавацца па вёсках. Але схапілі. І яго, і ўсю сямейку. Патрымалі траха пад замком, а тады вывелі ў двор турмы. Фрыдрых, начальнік жандармерыі, прывёў паліцаяў, пастроіў, загадаў прынесці шаблю і падаў тую шаблю Біркову, прадацелю, быломy дырэктару аднае брагінскае канторы. Біркоў ступіў да Левіна, у паветры маланкаю бліснула шабля, і Левін упаў, рассечаны напалам. Зноў бліснула шабля, і жонка Левіна таксама ўпала. За трэцім разам шабля рассекла старэйшае дзіцятка. А немаўля, якое выпала з рук маці, Біркоў схапіў за ножкі і з усяе сілы бразнуў вобзем...

Біркоў павярнуўся да начальніка, узяў пад казырок, чакаючы ад Фрыдрыха пахвальбы і ўзнагароды. А Фрыдрых маўчаў. Змераў паглядам Біркова раз, другі, і твар ягоны ажно перасмыкнуўся. А тады паволі выцяг з кабуры парабелум і ва ўпор разрадзіў у Біркова ўсю абойму.

Стары брагінец змоўк. Дастаў пачак цыгарэт, закурыў і выдыхнуў з дымам:

— Во як было некалі ў нас!..

Праз хвіліну сказаў — пра Левіна:

— А што ён, Левін? Харошы чалавек быў! Мухі, як гаворыцца, за сваё жыццё не пакрыўдзіў... А жонка? А дзеткі ягоныя? У адным я Левіна ўпікнуў бы: не трэба было туляцца пазавуголлю, а за аружжа брацца, ісці з сям'ёю ў партызаны і ваяваць. Але зноў жа: тады і партызанаў яшчэ толкам не было...

## ШАЙМОРЫ

Вы елі калі-небудзь шайморы?

О, тады не ведаеце сапраўднай цаны бульбе!



А шайморы — тая самая бульба, толькі перамерзлая, якую людзі нашы ў ліхія гады збіралі на палях па вясне, калі раставаў снег, адмывалі ад бруду, аддзялялі тое, што можна было пускаць на спажыў, і з таго месіва пяклі блінцы альбо гатавалі клёцкі.

Здабыча шаймораў звычайна ляжала на дзецях. Высыплюць на раскіслае поле з кашамі, калупаюцца ў зямлі, дастаючы тыя «порхаўкі», і радуюцца: будзе чым набіць страўнік і на гэты раз!

Вялікім святам было, калі з шаймораў пякліся блінцы. Не на шмальцы, не на здоры, не на алеі — на сухенькай патэльні! Якi пах тады стаяў у хаце! Якім нецярпеннем гарэлі дзіцячыя вачаняты! Іншае зачакаецца, заманецца плакаць, то маці тыцне яшчэ гарачы блінец у ручаня, і малеча сціхне, радае дачаснаму пачастунку.

Горай было з клёцкамі. Яны і не духмянілі, і на зубах пясчынамі патрэсквалі, але заўсёды было шкада, што і яны гэтаксама хутка знікалі з місы.

Шайморамі перабіваліся да тае пары, пакуль не з'яўляліся крапіва, лебяда, шчаўе. Тады рабілася лягчэй. Тады «меню» селяніна было багацейшым.

На здзіў, у тыя галодныя гады ніякая трасца не брала ні старых, ні малых. Ніхто не хварэў! Праўда, усе хадзілі нейкія абнядужаныя і з твару бледныя, а вачэй не пакідала незразумелая мне туга.

... А нядаўна ў вёсачцы пад Гародняю пачуў:

— Мам! Не хачу дранікаў на алеі. На масліцы кароўім спячы. На масліцы!..

## ПРАТЭСТ

Жыў ён пры дарозе, што з Ліды на Радунь, і насіў такую мянушку: Трынка. Жыў адзін. Першая жонка некалі ў Польшчу ад яго з'ехала. Другая — таксама ўцякла праз пару гадоў. Абедзве сцвярджалі адно і тое ж: іхні Трынка дзівак!

Трынка сапраўды паводзіў сябе дзіўна.

Калі на Радуншчыне пачалі гуртаваць сялян у калгасы, — чалавек наадрэз адмовіўся ад такой «выгоды» і праганяў з панадворка тадышніх агітатараў ды апрычнікаў любога рангу. І яго пазбавілі ўсяго — каня, калёсаў, саней, абрэзалі зямлю, пакінуўшы сотак дваццаць, каб не ўмёр з голаду. І ён абрабляў тыя соткі, як і раней усю сваю зямліцу, — акуратна, з веданнем справы. Аднак араць даводзілася цяпер кароўкаю. А сеяў штогод і загончык ячменю, і лапічак бульбы, і шнурок жыта. З таго і жыў.

Ад былое гаспадаркі ў Трынкі засталіся ночвы. То ён, бывала, запражэ сваю Рагулю ў тыя «сані» і ці то ўлетку, ці то ўзімку — тарахціць на іх у Радунь. Па соль. Местачкоўцы зубаскаляць, а Трынка пакручвае лейцамі над галавою, пацмоквае на кароўку, бытта на стаенніка, і — аніякай увагі каму б там ні было.

Вяртаўся дадому, упрагаўся ў жорны, выжыльваўся гадзін колькі і, нарэшце, даставаў са стопкі дзяжу. У рошчыну дадавалася тоўчаная бульба, перацёртая сухая лебяда з крапівою, і к вечару з коміна плыў пахкі хлебны дух. А што ў яго было на стале да хлеба, — ніхто не ведаў. Гаспадар па-ранейшаму не пускаў у хату нікога.

Нават падчас пазнейшай «адлігі», калі многае пачало мяняцца на нашай зямлі, Трынка хадзіў бытта натапыраны верабей, а ягоная хата з патухлымі вокнамі нагадвала пакінутую ў полі сціртачку леташняй саломы.

Памёр Трынка ціха, як і жыў. Але калі іншы раз і цяпер зойдзе гаворка аб ім, — усе толькі адно і робяць: паціскаюць плячыма. Маўляў, дзівак-чалавек быў!..

Толькі ці быў Трынка дзіваком?

## ДЗЕЦІ ЗЯМЛІ

Гадоў па дваццаць было ім, не болей. Ён — высакаваты і ажно чорны ад вясковага загару. Яна — бытта дзяўчынка: танклявая і нізенькая расточкам. І загар на яе твар лёг толькі да кромкі касынкі.

Яны сышлі з цягніка, акінулі паглядам прывакзальную плошчу, узяліся, як дзеці, за рукі і накіраваліся да станцыі метро. У вагон убеглі з нейкім святочным настроем у вачах, але прыселі не на відным месцы — у куточку і на самы краёчак лаўкі. Па-ранейшаму яе рука была ў ягонай руцэ. Па-ранейшаму абодва маўчалі. Відаць было, што ўсё перагаворана, усё вырашана яшчэ дома.

Праехалі адну станцыю, другую, і ён першы падаў голас.

— Слухай сюды! — сказаў ціха, бытта па сакрэту. — Зямля не папракне мяне. Я ёй усё аддаваў, пакуль да старшыні-паганялы не трапіў, — і араў, і сеяў, і жаў... А круціць баранку і тут можна! Сама ведаеш, землякі неблагую работу падшукалі.

— Ай, Валік! — азвалася яна. — Плюнь на таго паганялу! Як прыбіўся ў сяло, так і з'едзе. Там жыць нам — не яму!..

— Слухай сюды! — зноў сказаў ён, але ўжо не так ціха. — Я пры ім дужа нервяны стаў. То ў раён яго адтарабань і седма сядзі ў машыне, пакуль гары тае не нажлукціцца, то да залёткі падкінь і зноў сядзі, пакуль шуры-муры разводзіць будзе, то туды падскоч, то сюды. Надакучыла! Баранку і тут можна...

— Ай, Валік! — яшчэ раз азвалася яна. — Мо перадумаў бы?.. І во што скажу яшчэ: хату ж у горадзе не вельмі дадуць!..

— Не вельмі, — пагадзіўся ён. — Толькі паганяла цяпер не пасадзіць мяне ні на грузавік, ні на трактар, ні на камбайн. За тое, што адмовіўся, як той казаў, балаголам яму служыць.

Яны зноў змоўклі. Але іхнія рукі, іхнія вочы, іхнія ледзь улоўныя вінаватыя ўсмешкі казалі болей, чым словы.

Рабілася трывожна за гэтых людзей. Пазіраў на ўчарнелыя рукі, якія трымаліся адна адной, а з галавы не выходзіла толькі што ўчутае:

— Зямля не папракне мяне... Не папракне...

Гэтым наіўным дзецям зямлі хацелася пажадаць хутчэйшага вяртання дамоў.

## ЛЮБІМ-ТРАВА

Ад вёсачкі засталася адна-адзіная хаціна. Управа і ўлева ад яе — толькі хацішчы, парослыя крапівою ды чарнабыльнікам.

Раптам заўважаю бабульку: сядзіць на камені і перабірае шчаўе. Ля ног паблісквае зялёнаю палівао глячок.

Падыходжу, здароўкаюся, пытаюся:

— А дзе астатнія будуць?

— Сышлі. Назусім, — спакойна адказвае бабулька. — А я не змагла. Ім няміла тут стала. Імі страх апанаваў. А я...

— А што ў глячку маеце?

— У глячку? — перапытала бабулька і адказала: — Цудадзейнае варыва! З любім-травы.

— А навошта яно вам, тое варыва?

— У палюддзе збіраюся, — на гэты раз бытта сярдзіта прамовіла бабулька. — Да каго зайду — прапаную паспытаць варыва етага. Каб не страціў любові да зямліцы роднай. Каб успомніў пра яе. Каб вярнуўся.

Сказала гэтак і ўстала з каменя. Перавесіла цераз плячук торбачку са шчаўем, падняла з зямлі глячок і патупала ўтравелай вуліцай.

— Любім-трава сілу вялікую мае! — далящела да мяне ўжо здаля.

... Казала бабулька сур'ёзна ці жартавала — не разумею і сёння.

ЛіМ
ЧАСАПІС



# ДЖАЗ: 25, 26, 27



Тры дні ў лютым, спрыяльныя для джазу. Яны азначаюць, што напрыканцы зімы ў Мінску адбудзецца І Міжнародны фестываль джазавай музыкі. Самыя актыўныя чыннікі імпрэзы, што пройдзе ў Вялікай зале філармоніі, — музыканты Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі на чале з галоўным дырыжорам М. Фінбергам. Чакаюцца калектывы з Бельгіі ды Ізраіля, Расіі ды Літвы... Сярод гасцей такія вядомыя музыканты, як Ю. Саульскі, І. Брыль, А. Асяйчук, А. Крол... За тры дні плануецца правесці некалькі разнастайных канцэртных праграм, супольнае паўночнае гранне джазменаў /джэм-сэшн/, сустрэчу на сцэне двух бігбэндаў. З білетамі, кажуць, ужо сёння — праблема.

*Фота Г.МАСКАЛЁВАЙ*

# ДА 50-ГОДДЗЯ З ДНЯ ВЫЗВАЛЕННЯ БЕЛАРУСІ

**Міністэрства культуры, Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь абвяшчаюць адкрыты рэспубліканскі конкурс плаката.**

**Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца прафесійныя мастакі, студэнты мастацкіх установ, супрацоўнікі выдавецтваў. Тэрмін правядзення конкурсу з 1 лютага па 1 красавіка 94 г.**

**На конкурс прадстаўляюцца арыгіналы плакатаў, выкананыя ў любой тэхніцы і на любым матэрыяле, у падыходзячым да друку выглядзе: на трывалай аснове, фарматам 60 х 90 і 70 х 100 см.**

**На адваротным баку плакаты пазначаюцца шыфрам /шасцізначнай лічбай/. Да работы дадаецца заклеены канверт, які таксама пазначаецца тым жа шыфрам. У канверт укладваецца лісток са звесткамі пра аўтара: прозвішча, імя па бацьку, год нараджэння, месца работы альбо вучобы, нумар тэлефона, а таксама дакладны паштовы адрас.**

**Плакаты з паметкай «На конкурс» накіроўваць на адрас: г. Мінск, вул. Казлова, 3 /Палац мастацтваў/. Прапановы пазней тэрміну не разглядаюцца. Члены журы ў конкурсе не ўдзельнічаюць.**

**Пераможцам конкурсу ўстаноўлены прэміі:**
**адна першая — 10 мінімальных зарплат**
**адна другая — 7 мінімальных зарплат**
**адна трэцяя — 5 мінімальных зарплат**

**Аб выніках конкурсу будзе паведамлена ў рэспубліканскай прэсе, а прэміяваныя творы надрукаваны паліграфічным спосабам. За іх, незалежна ад сумы прэміі, выплачваецца ганарар.**

**Плакаты, дасланыя на конкурс, не рэцэнзуюцца, зваротна не высылаюцца. Неўстрабаваныя з дня абвяшчэння вынікаў конкурсу, знішчаюцца з афармленнем адпаведнага пратакола.**

**Тэлефон для даведак у Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь — 29-62-81.**

# ГРЫЦКЕВІЧЫ, З ГЕРБА ХАРУГВЫ...

**Не ўпершыню ў Доме літаратара віталі прадстаўнікоў творчай дынастыі. Памятаецца, не так і даўно была магчымасць сустрэцца з братамі Ермаловічамі. Цяпер таксама з братамі, толькі з Грыцкевічамі. Абодва яны, так сказаць, у свядомым нацыянальным асяроддзі людзі знакамітыя. Анатоль Грыцкевіч — вядомы гісторык, які не цураецца і краязнаўства. У прыватнасці, неаднаразова даследаваў мінулае сваёй роднай Случчыны. Валянцін жа Грыцкевіч жыве ў Санкт-Пецярбурзе, дацэнт кафедры музеязнаўства Санкт-Пецярбургскай акадэміі культуры. Пачынаў як гісторык медыцыны, пасля і ўвогуле зацікавіўся нацыянальнай мінуўшчынай.**

**Гэта сённяшнія Грыцкевічы, а род іхні пачынаецца ў глыбокай даўніне. Прынамсі, пра гэта можна было даведацца з радаводнага дрэва Грыцкевічаў, спецыяльна да вечара намаляванага В. Сташчанюком. Браты ўстанавілі, што іх далёкі родзіч баярын княгіні Настассі Слуцкай Юхно жыў у пачатку XVI стагоддзя. Нават і дакладная дата той службы ёсць — 1511 год. Юхно і стаў заснавальнікам герба Харугвы.**

Музыка

# САЮЗ НЕЗАЛЕЖНЫХ

## З ФЕСТЫВАЛЬНАГА ВІЦЕБСКА

***Як жа ўмее быць прыгожым жыццё! Вось і ўледзянелая сцяжынка пад абцасамі робіцца лагоднай, калі, у неспакойным вандроўным настроі спяшаючыся на аўтобус, чуеш раптам, быццам з неба, дзівосны голас царкоўных званоў. Вось і апусцелая нядзельным зімовым днём шаша ўражвае сваімі жывапіснымі «берагамі»: пры адсутнасці фарбаў — багацце фарбаў, жывое, нібы на палотнах пуантылістаў, спалучэнне белых і чорных кропак, белых і рудых, белых і зялёных, і шэрых, і жоўтых...***

***Вось і віцебскія прыцемкі атуляюць быццам ірэальнымі, нейкімі кінематаграфічнымі вобразамі. Чародка старых камяніц з казачна зменлівымі вокнамі, якія гэтым надвячоркам глядзяць на праходжых бляклa-жоўтым позіркам, а заўтра ўжо гараць-смяюцца аранжавымі агеньчыкамі. Ці — падпарадкаваны незямным часавым законам, чысты духам невялічкі драўляны храм на беразе Дзвіны, пад бокам у жалезабетоннага атэля...***

***Вось і фестываль сярод будзённага бязладдзя склікае людзей, чые патрэбы не трапілі ў беззваротную залежнасць ад «загадаў страўніка», і яны без ваганняў эканомяць на катлетах ды булачках, каб прыдбаць для сябе і сваіх дзяцей штосьці больш важнае і даўгавечнае...***



*Мастацкі кіраўнік ансамбля «Класік-Авангард» У. БАЙДАЎ.*

У V Міжнароднага фестывалю імя І. Салярцінскага быў прыгожы пачатак: канцэрт навучэнцаў Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Канечне, аншлаг...

Новай праграмай прывабіў публіку «Класік-Авангард» на чале з У. Байдавым /нагадаю, ураджэнцам Віцебска, ініцыятарам і адным з першых арганізатараў фестывалю/. Ансамбль прапанаваў своеасаблівае водгулле канцэртаў, якія ў розны час мелі поспех у сталіцы. Прынамсі, у партнёрстве з цудоўнай расійскай спявачкай Н. Герасімавай была выканана «Missa brevis» Ф. Янаў-Яноўскага, упершыню «агучаная» падчас III фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы». А нейкі зусім «свой» сярод музыкантаў менавіта гэтага ансамбля вобраз экстравагантнай швейцарскай салісткі, прафесара фартэпіяна Э. Хенц-Дэманд нагадаў тыя летнія дні, калі ў Мінску гасцявала мастацтва дружалюбнай Швейцарыі.

Анегер, Месіян, Крамб... Праграма, якая ў Мінску падавалася б як суперэлітарная, не толькі не адпудзіла віцяблян, але павабіла іх у канцэртную залу... разам з дзецьмі. /Ім, як гаварылі пасля, было, напрыклад, цікава сачыць за працэсам выканання складанай кампазіцыі Д. Крамба, населенай вобразамі макракосмасу/.

Зрэшты, Віцебск з памятных часоў акумуляваў энергію людзей з самастойным, незалежным поглядам на жыццёвыя й мастацкія з'явы, людзей, чулых да прыгожага і новага, неабыякавых да працэсу творчасці.

●

Усё не ўсё, а ўжо багата ведаюць мае чытачы і пра Віцебск 20-х, і пра школу Ю. Пэна, і пра геніяльнага «дзівака» М. Шагала, і пра інтэлектуальны космас І. Салярцінскага, і пра філасофскія адкрыцці М. Бахціна... Але новыя фестывальныя сустрэчы — новыя веды або новы ракурс у вядомым. Яшчэ адзін сціплы крок да Ведання.

Уявіце сабе, ці можна вычарпаць «да самых глыбіняў» тэму, якую прапанаваў наведнікам навуковых чытанняў /традыцыйных на фестывалі/ рэдактар аддзела мастацтваў часопіса «Наше наследие» А. Кузняцоў! «Салярцінскі пра Густава Малера» — гэтая тэма вымусіла прамоўцу згадаць, што насуперак школе акадэміка Б. Асаф'ева І. Салярцінскі ў свой час паглядзеў нават на Чайкоўскага не як на трагіка і гэтым светлым позіркам ахапіў і творчасць Малера, які ў савецкім музыказнаўстве пачынаў набываць вобраз змрочнага імпрэсіяніста, што было потым замацавана афіцыйнай крытыкай.

«Калі б пайшла гаворка пра помнік Салярцінскаму ў Віцебску, а гэта наспела, — лічыць А. Кузняцоў, — я прапанаваў бы выяву Івана Іванавіча ў «атачэнні» дарагіх яму фігур: Чайкоўскага, Берліёза, Малера...»

Лёс музыкі Малера няпроста складваўся ў Еўропе, тым больш неўразумелымі былі творы кампазітара для савецкіх крытыкаў, якія цанілі выключна яго дырыжорскую дзейнасць. Менавіта Салярцінскі адстояў ягоную музыку ў перадваенным канцэртным жыцці, зрабіўшыся на той час мастацкім кіраўніком Ленінградскай філармоніі. Філармонія падчас працы Салярцінскага была своеасаблівай «выспай незалежнасці», выспай жыцця й барацьбы музыкі супраць ідэалагічнай дахляціны.

Нягледзячы на змрочны час, музыка перамагала. Яна перамагае ва ўсе часы, бласлаўляючы й беручы ў саюзнікі незалежныя душы, паяднаныя гармоніяй творчасці, злучоныя разуменнем праўдзівай, сутнаснай прыгажосці.

●

Бадай, няма сэнсу дэталёва ўзнаўляць тое, што гаварылася-дзеелася ў Віцебскай музычнай гасцёўні на працягу фестывальных дзён. Чалавеку выпадковаму не ўсё тут магло быць зразумела і дорага. Напрыклад, прагляд фрагментаў мінулых сустрэч, зафіксаваных на відэастужцы, быў пазнаваўчым для ўсіх. Ды толькі відавочцы або самі ўдзельнікі колішніх канцэртаў маглі, як зачараваныя, глядзець на экран. І ўспамінаць. Пра тое, якую мужнасць, якое высокае служэнне мастацтву і адданасць прафесійнаму абавязку паказалі ў студзені 91-га літоўскія артысты — спявачка Ю. Лейтайтэ і аркестр з Каўнаса, якія выступілі на фестывалі падчас палітычнай трагедыі ў Вільнюсе. Пра тое, як, дзякуючы музыкантам з Фінляндыі, адбылася прэм'ера трыо А. Копленда «Віцебск». Пра тое, як прадстаўляў праграму старабеларускай музыкі гітарыст В. Жывалеўскі. Пра тое, якую авацыю выклікалі творы для 2-х раяляў у выкананні дуэта Т. Курасавай і А. Вядзернікава /відаць, мы былі сведкамі аднаго з апошніх публічных выступленняў легендарнага піяніста: праз нейкі час яго не стала/...

Кароткія відэаэкскурсы ў гісторыю фестывалю сталіся ўдалым кантрапунктам да навуковых паведамленняў і проста тэарэтычных размоў.

«Бахцін і праблемы самасвядомасці» — з такой тэмай выйшаў да слухачоў дацэнт Віцебскага педінстытута У. Бародзіч, прапанаваўшы следам за М. Бахціным паразважаць: чаму нельга «любіць бліжняга, як самога сябе», чаму любіць можна толькі іншага? Ці заўсёды «я» знаходзіцца за межамі ўласнага пазнання? І г. д.

Нават канспектыўная гаворка пра Бахціна заключае ў сабе каліва інтэлектуальнай спажывы. А спецыялізаваны бахцінскі часопіс для «гурманаў думкі» — проста падарунак! Мне ўжо даводзілася распавядаць пра выданне віцебскага энтузіяста-даследчыка, бахцінazнаўцы М. Панькова «Дыялог. Карнавал. Хранатоп». Дык вось, бахцінскі бюлетэнь, які выдаецца ў Канадзе, змясціў рэцэнзію на віцебскі часопіс, назваўшы яго выхад у свет гістарычнай падзеяй.

Набываючы чарговую кніжку «Дыялога...», удзельнікі фестывальных чытанняў следам за рэдактарам смуткавалі з прычыны няпэўнага становішча гэтага найцікавага выдання. Гарадскім уладам, як заўважыў М. Панькоў, не да навуковага часопіса, калі яны заклапочаны харчаваннем насельніцтва. Прадпрымальнікі? На жаль, сёння сярод іх пераважаюць не свядомыя мецэнаты, а духоўна абмежаваныя жмінды. Найбольш надзейнай крыніцай фінансавання часопіса застаюцца замежныя калегі, але гэтага ва ўмовах няспыннай інфляцыі ўжо недастаткова. Супрацоўнікі Гарвардскага універсітэта пішуць, што будуць з радасцю атрымліваць далейшыя нумары «Дыялога...». Эх, ведалі б яны, наколькі гэта малаверагодна...

Адзін з аўтараў часопіса доктар фізіка-матэматычных навук, філосаф, багаслоў С. Харужы /дарэчы, сын В. Харужай/ прыехаў на фестываль і выступіў з паведамленнем на тэму «Бахцін і Джойс», падкрэсліўшы, што творчасць Бахціна можна «прыкладаць» да твораў кожнага буйнога пісьменніка, бо ён развіў новую навуку пра тэкст увогуле. А дачыненні Дж. Джойса ды М. Бахціна паказальныя асабліва, бо адзін у мастацкай практыцы рабіў тое, што другі — у тэорыі. І незалежна адно ад аднаго.

Сувязь паміж гэтымі дзвюма фігурамі толькі пачынае раскрывацца, бо як доўгі час на Захадзе не ведалі Бахціна, так і на «ўсходзе» практычна не быў вядомы Джойс. Зыходзячы з твораў таго й другога, С. Харужы даводзіў, што фармалізму ў вульгарным сэнсе ў Літаратуры ніколі не было. Галоўнае, што хоча сказаць пісьменнік, ён выказвае не зместам, а формай, тым, **як** сказана, а не дэкларацыямі. І калі ідэі, якія, канечне ж, у літаратуры ёсць, выказваюцца ў маналогах герояў, — дык гэта кепская, не мастацкая літаратура. Тэкст ёсць з'ява шматпластавая, на паверхні можа выказвацца штосьці супрацьлеглае ідэі, або нейтральнае, або абсурднае. Тым, як ён пабудаваны, — і выказваюцца ідэі. Тое ж і ў побыце, калі ў дыялогу часцяком гучаць фразы, літаральны сэнс якіх цалкам супрацьлеглы таму, што суразмоўцы даносяць іншымі сродкамі — інтанацыяй, мімікай і г. д.

Словам, «лабавы» тэкст, калі за знешнім пластом нічога й няма, — гэта і ёсць фармалізм, які спрацоўвае хіба што ў мітынгавых сітуацыях, дзе ёсць стасункі чалавека і натоўпу...

●

Хай жа даруе мне чытач: пачынаю захапляцца «імправізацыяй на тэму» і рызыкую пакінуць без увагі іншае. Напрыклад, паведамленне пра педагогаў Віцебскай мастацкай школы 1917—23 гг. Дацэнт Віцебскага педінстытута М. Гугнін прапанаваў ёмісты, праілюстраваны паказам слайдаў, дакументальны расказ, лагічным працягам якога было выступленне выкладчыка інстытута Г. Ісакава, прысвечанае праблемам ВМШ у кантэксце гістарычных падзей. Дарэчы, Віцебскай мастацкай школе — гэтаму своеасабліваму добраахвотнаму саюзу мастакоўскіх індывідуальнасцяў, якія і супрацоўнічалі, і спрачаліся, і канфліктавалі, і разыходзіліся па розных дарогах, — 75. І ў сувязі з юбілеем праблем у гісторыкаў-летапісцаў знакамітай школы, вядома, паболела...

А фестывальныя вечары тым часам былі



*Салістка — з. а. Расіі Н. ГЕРАСІМАВА.*



*На фестывальнай сцэне — выхаванцы Беларускага харэаграфічнага вучылішча.*

не менш багатыя на ўражанні: у Віцебск прыехаў маскоўскі музычны тэатр «Гелікон». За тры гады працы — каля паўтара дзесятка прэм'ер, кожная з якіх — першая пастаноўка або ў Расіі, або ў свеце. Творы выконваюцца на мове арыгінала. Малады тэатр ужо ведаюць у Еўропе... Натуральнае пытанне: чаму, наведваючыся да нас, «Гелікон» сустрэўся з віцяблянамі, а не са сталічнай публікай?

«Вінаватыя» арганізатары фестывалю, дырэкцыю якога нязменна ўзначальвае дасведчаны музыкант У. Правілаў. Рыхтуючы праграму чарговай імпрэзы, удалося скарыстаць «сваяцкія сувязі» аднаго карэннага віцяблянiна, чый родзіч /таксама паходжаннем з Віцебска/ іграе ў аркестры тэатра. Карацей, «Гелікон» прыняў запрашэнне. А яго канцэртмайстар-альтыст Л. Двоскін /дарэчы, вядомы музыкант, працаваў у калектывах пад кіраўніцтвам Самасуда, Кандрашына/ з радасцю пагасцяваў у віцебскай радні...

У зале абласной філармоніі былі паказаны чатыры аднаактовыя пастаноўкі. Калі шукаць штосьці агульнае паміж імі, вельмі рознымі, дык можна зазначыць маладосць студыйнага духу, лаканізм і яркасць «візуальных» сродкаў выразнасці, асэнсаванасць вакальнай інтанацыі. /На жаль, дакладнаму ўяўленню пра музычнасць у цэлым замінала тое, што госці выступалі ва ўмовах, непрыдатных для паказу оперных спектакляў/.

Чым жа здзіўляў публіку «Гелікон»?

«Апалон і Гіяцынт» — опера, напісаная 11-гадовым Моцартам на аснове старажытнагрэцкага міфа, перарobленага ў духу італьянскіх опер. Крыху чапурыстая няспешнасць відовішча «прыпраўлялася» то нервовым трапятаннем агню жывых свечак ва уверцюры, то ажыўленнем вакол бутэлькі шампанскага, з'яўленне якой вянчала фінальны квартэт...

«Маўра» І. Стравінскага ішла пад неўтаймоўны рогат залы. Створаная паводле пушкінскага «Доміка ў Каломне», гэтая опера парадзіруе рускі раман 1-й паловы мінулага стагоддзя. Гусар у абліччы кухаркі Маўры ўладкоўваецца ў мяшчанскі дом — бліжэй да незамужняй дзеўкі Парашы. «Маскарад» выкрываюць, але не адразу... Ах, якім смачным, здаровым гумарам павявала са сцэны: і гэтыя вясёленькія фіраначкі, і гэтая стракатая коўдра, і скасавураныя вакенцы, і гэтая Маўра з яркім, як на дымкаўскіх цацачных бабах, макіяжам і атлетычнымі біцэпсамі! І гэтае вынаходніцтва з мыццём посуду — «палюляўшы» дзежку з укінутымі туды талеркамі. І доўгачаканае галенне перад люстэркам, ля якога «кухарку» і засяваюць... Ужо не кажу пра музыку, дасціпна адаптаваную на сціплы, але каларытны склад аркестра.

Трагічная прыпавесць К. Дэбюсі «Блудны сын», у якой ёсць тры бліскучыя спевакі-акцёры, ёсць жывая рытуальная вада і метафарычнае жывое полымя і яшчэ — маўкліва-красамоўны чорны колер сцэнічных убораў. Вар'яцтва маці. Жорсткасць бацькі. Вяртанне сына. Вяртанне памяці. Вяртанне дзяцінства: гульня, пяшчота, любоў... Жорсткасць бацькі. Адыход сына. Вар'яцтва маці. Назаўсёды...

І яшчэ адно відовішча. Вясёлае, гарэзлівае, напоўненае хуліганістай імправізацыяй. Музычны скетч П. Хіндэміта «Туды і назад» разгортваецца да кульмінацыйнага пункту, і потым дзеянне як бы «пракручваецца» ў зваротным парадку. На сцэне — пародыя: на оперныя штампы, на банальнасці тэатральнага жыцця. Зводу на іх, як вядома, няма — значыць, няма й мяжы ў пастановачных прыдумках. У спектаклі быў і недарэка-суфлёр, і герой, «смяротна паранены» ўткнутым пад паху бутафорскім клінком, і брыгада «хуткай», і спакойная, як алімпійская багіня, прыбіральшчыца з вёдрамі ды анучай...

Жывы оперны тэатр — іменна тэатр — для нашага гледача рэдкасць. У Мінску, бадай, толькі пастаноўкі Ю. Аляксандрава даводзяць, што такое магчыма. «Гелікону» ж наканавана існаваць у стыхіі студыйнасці, бо нарадзіўся тэатр «у нетрах» ГИТИСа, дзе завадатарам быў Д. Бертман. Былыя студэнты зрабіліся артыстамі, Д. Бертман узначаліў тэатр. Малады рэжысёр не цураецца калег, запрашае іх на пастаноўкі. Шануе спецыялістаў з вопытам: аркестрам кіруе спрактыкаваны дырыжор К. Ціханаў /як вядома, ён колькі часу працаваў і ў Мінску/, сярод музыкантаў таксама не толькі моладзь. Саюз пакаленняў, у якім сучаснікі, але «з розных часоў», дапаўняюць адно аднаго, надае творчаму арганізму «Гелікона» грунтоўнасць і дынамізм, устойлівасць і перспектыўнасць. Хацелася б зноў сустрэцца з гэтым тэатрам. У Мінску...

●

Дзякуй Богу, фінансава-эканамічнае бязладдзе яшчэ не паралізавала гастрольнае жыццё, і насуперак складанасцям, нават сабе ва ўрон, едуць у Віцебск добрыя музыканты, мыслівыя людзі. Мне падалося, што межы ды мытні для іх — чыста фізічная нязручнасць, ні ў якім разе не палітычная перашкода. /Зрэшты, «дарожныя бар'еры», хай сабе і цывілізаваныя, ёсць ва ўсім свеце/. Незалежныя высокія душы ўсё роўна знаходзяць адна адну — на сцэне і ў зале, на мастацкай выстаўцы і ў холе гасцёўні... Тут няма завядзёнкі казаць высокім словам пра дружбу, заклікаць да братэрства. Тут /зусім паводле Бахціна!/ сяброўствам і еднасцю прасякнуты самі людскія адносіны, тая форма няўгледнага для вока хараства, у якой існуюць Думка і Духоўнасць.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота М. ШМЕРЛІНГА*

# ЦЯПЕЛЬЦА ПАЎНОЧНАГА СЯБРА

## 75 ГОД ВІЦЕБСКАЙ МАСТАЦКАЙ ШКОЛЕ

***Пра тыя гады не так многа дакументальных звестак, а мемуарнай літаратуры бракуе дакладнасці. Праўда, пачалі з'яўляцца газетныя і часопісныя публікацыі, напачатку дзякуючы «буму» вакол М. Шагала, В. Кандзінскага, К. Малевіча, а пасля і ўзрослай цікавасці да нацыянальнай спадчыны. Загаварылі пра «рэвалюцыйную» творчасць, зацікавіліся архівамі, дзяржаўнымі і асабістымі, — і, нарэшце, заняў Віцебск належнае месца ў гісторыі станаўлення «новага» мастацтва.***

***«Правінцыйны» апошнія дзесяцігоддзі горад не знік-такі з культурнага працэсу. Стварыў «супер»-галерэю А. Пушкін, у былым банку /цяпер былым гаркоме/ адкрылася выставачная зала, працуе не адзін музей, а кагорта віцебскіх мастакоў адметна вылучаецца экспрэсіўнай колеравай гамай і схільнасцю да фармальных пошукаў. Горад, што быў у 20-я гады другім Парыжам па свабодзе творчасці, здолеў захаваць культурныя традыцыі, і дзякуй Богу, што не сталі яны замшэлай даўнінай адных успамінаў, што ўсё часцей завітваюць сюды турысты, адбываюцца канцэрты і фестывалі, наладжваюцца выставы, прайшла не адна ўжо навуковая канферэнцыя, а наперадзе — міжнародны шагалаўскі пленэр. Нібы адраджаецца той час, калі Віцебск, дзякуючы намаганням выдатных творцаў розных кірункаў і стыляў, ператварыўся з заштатнага горада ў своеасаблівы сталічны для культуры. Узлёту хапіла ўсяго на некалькі год, але гэтага дастаткова, каб мастакі, былыя вучні Віцебскай мастацкай школы, натхнёныя творчай атмасферай горада і навучаныя лепшымі выкладчыкамі, паднялі гонар Віцебска на сусветную вышыню. Не ўсе з іх засталіся на радзіме /гады былі неспрыяльныя/, не ўсе сталі афіцыйна прызнанымі і вядомымі. Але колькі было таленавітых і сумленных майстроў, што склалі аснову беларускага адраджэння, а пазней узбагацілі культуру іншых краін. Іх творчасць, іх жыццё і лёсы вартыя нашай увагі.***



*Ахола-Вало. 1992 г.*




*Раскіданае гняздо. 1928 г.*

Віцебск усё сваё доўгае жыццё вядомы фінскі вучоны, пісьменнік, мастак Аляксандр Пятровіч /Александэры/ Ахола-Вало называў сваім домам. У сталым ужо ўзросце мастак склаў карту Віцебска 20-х гадоў, якую часопіс «Siksi» надрукаваў у першым нумары 1992 года. Там адзначаны больш за 80 месц, якія мелі для Ахола-Вало асабліва важнае значэнне: Віцебскі мастацка-практычны інстытут, куды вясной 1921 года паступіў на вячэрняе аддзяленне; губернскі камітэт партыі, дзе працавала камісія па ўзбуйненні Беларусі, прыняць удзел у яе рабоце прапанавалі і Ахола-Вало; маладзёжны тэатр, для сцэны якога стварыў некалькі дэкарацый; ТЭРАУСАТ /альбо паркавы тэатр/, для якога выконваў розныя ўпрыгожванні; будынак камсамола — месца правядзення першай значнай выставы маладых мастакоў, сярод якіх быў і Ахола-Вало; тэатр «Пралетарый» /кіраўнік Міхайлоўскі/; дом сям'і М. Шагала; дом Ю. Пэна і нямецкае кафэ, дзе Пэн снедаў; рымска-каталіцкі касцёл; праваслаўны сабор; англійская царква прыхаджан-уніятаў, дзе Ахола-Вало браў шлюб з Аленай 9 сакавіка 1923 года; дом цесця — епіскапа Антона Нікановіча...

28 студзеня Аляксандру Пятровічу споўнілася 94 гады. Ён жыве ў невялікім горадзе Хяменліне, дзе актыўна прапагандуе Эвахамалогію — сваю навуку «адраджэння чалавецтва дзеля татальнага вызвалення ад усяго шкоднага і непатрэбнага, назапашанага эпохай цемры», распрацоўваць якую пачаў яшчэ ў Віцебску. Знакавая сістэма гэтай навукі была афіцыйна зарэгістравана і прынята да выкарыстання ў 1966 годзе. У Хяменліне створана таварыства ЭЛПО, ганаровым старшынёй якога выбраны мастак, дзейнічае народны універсітэт імя Ахола-Вало, друкуецца часопіс «VAIOVIESTI», таварыства выдае кнігі-дзённікі Ахола-Вало, друкуе яго артыкулы. Недалёка да горада ствараецца яго музей, экспанаты збіраюцца ў Швецыі і на Беларусі.

Сам Аляксандр Пятровіч і цяпер выдатна валодае беларускай мовай, падпісваючы паштоўкі, успамінаючы бурлівы віцебскі і менскі перыяды жыцця. Найцікавейшая асоба, ён многа жыў у Мінску, супрацоўнічаў у Інстытуце беларускай культуры, Беларускім дзяржаўным выдавецтве, у тэатрах, газетах і часопісах, будаваў паводле сваіх праектаў выставачныя залы, распрацоўваў генеральныя планы афармлення Мінска да дзесяцігоддзя БССР, удзельнічаў у стварэнні першых мультыплікацыйных фільмаў на Беларусі. Віцебск жа назаўжды застаўся для яго — чырвонаармейца, вучня мастацкай школы, мастака-ілюстратара — найлепшым, яркім успамінам маладосці.

«Пасля першай сусветнай вайны Віцебск стаў цэнтрам рускай культуры. Прычына — «Хлеб наш надзённы дай нам днесь», — пісаў мастак. — Віцебскія збожжавыя склады былі самымі вялікімі ў Еўропе. Там таксама размяшчалася ваеннае вярхоўнае камандаванне, 143-ці эвакуацыйны пункт, хірургічныя шпіталі, шпіталі для выздараўліваючых, тэатры, бібліятэкі. У Віцебску жылі многія артысты і рэжысёры... Балетная школа знаходзілася ў тым жа будынку, што і мастацка-практычны інстытут, у якім панавала вясёлая і безразважна-смелая атмасфера. Творчаму ўяўленню была дадзена поўная свабода, але інстытут не прытрымліваўся пэўнай строга акрэсленай лініі ў мастацтве. У акадэміі выкладалі рэалісты, кубісты і супрэматысты: мастакі ад Марка Шагала і Эля Лісіцкага да Казіміра Малевіча. Я далучыўся да рэалістаў. Мяне цікавілі гістарычныя карціны і партрэты Юрыя Пэна, паўрэалістычная скульптура Бразера і гравюры Юдовіна, выкананыя ў ксілаграфіі з выкарыстаннем тэхнікі папярочных валокан.

У Віцебскім інстытуце было прадстаўлена ўсяго пяць, альбо шэсць мастацкіх школ. Яны займаліся ў розных класах, якія, наколькі я памятаю, былі ў чатырохпавярховым будынку. Памяшканні рэалістычных школ выходзілі на вуліцу, абстрактных — у сад. Усяго было каля 600 студэнтаў /300 студэнтаў дзённага аддзялення плюс студэнты-завочнікі і вольнаслухачы/. Інтэлектуальную атмасферу стваралі студэнты, выкладчыкі, але мяне яны не натхнялі, за выключэннем, бадай, Ермалаевай, меўшай супрэматычную арыентацыю, хаця я і наведаў яе майстэрню ўсяго адзін толькі раз».

З 1925 г. жыццёвы і творчы шлях мастака быў звязаны ўжо са сталіцай Беларусі. У Мінску Аляксандр Пятровіч жыў да 1930 года. Яго творчая дзейнасць была проста фенаменальнай. У выдавецтвах аформіў «Новую зямлю» Якуба Коласа, «Хвоі гамоняць» Кузьмы Чорнага, «Ветры буйныя» Паўлюка Труса, часопісы «Паляўнічы Беларусі», «Беларускі піянер», «Маладыя араты», «Прастор», «Узвышша», «Плуг», «Работніца і сялянка». Ахола-Вало — мастак і архітэктар праекта будынка МОПРа для сельскагаспадарчай выставы ў Мінску /1930 г./. Ён сабраў калектыў, распрацаваў статут вытворчага аб'яднання «Прамень» /1928 г./, членамі якога былі А. Аладава, Г. Змудзінскі, А. Марыкс, В. Мурашоў і інш. Прыхільнік рэалістычнай школы, у прыватнасці, сатырыка-іншасказальнага адлюстравання




*Вокладка кнігі Паўлюка Труса. 1927 г.*



*Востраў Элпо. Праект мастацкага інстытута. 1985 г.*

рэчаіснасці, Ахола-Вало стварыў шэраг сатырычных малюнкаў, шаржаў, ілюстрацый на тэмы барацьбы з цемрай і бескультур'ем, бездарожжам і хабарніцтвам.

На жаль, толькі цяпер Беларусь можа запрасіць Аляксандра Пятровіча зрабіць свае выставы на Беларусі. Шмат год мы нічога не ведалі пра лёс гэтага мастака-эксперыментатара, вучонага, які ў верасні 1930 года спехам, сабраўшы пажытак, разам з сям'ёю пакінуў Мінск, выгнаны як фінскі падданы. У горадзе тады пачала ўжо работу сякера сталінскіх рэпрэсій...

**Людміла НАЛІВАЙКА**

